—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
15
ЛІСТАПАДА
1991 г.
№ 46 (3612)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



# КУДЫ ВЯДУЦЬ ПАВАДЫРЫ?

**Новыя нататкі незалежніка**

**Падзеі 19—21 жніўня настолькі паскорылі палітычныя працэсы, што пра іх доўга будуць гаварыць вучоныя і публіцысты. Аўтары падручнікаў гісторыі, мабыць, напішуць: у гэтыя дні камунізм перастаў існаваць як глабальная палітычная сіла, гэтыя падзеі паскорылі развал апошняе імперыі. У гэтыя дні, дадам, Беларусь другі раз у XX стагоддзі атрымала шанц пабудаваць сваю незалежную, дэмакратычную, прававую, сацыяльную дзяржаву. Першая спроба ў 1918—1920 гг. не ўдалася. Ці ўдасца другая?**

**Вялікі рускі гісторык В. Ключэўскі запісаў: тых, хто ў гісторыі не вучыцца, яна правучвае. Дадам: правучвае жорстка, без жалю.**

**Падобна на тое, што гісторыя правучыць Беларусь. Як і ў 1918—1920 гг., яна зноў аказалася найслабейшым звяном у вызваленчым антыімперыялістычным руху. Зноў сталі незалежныя Летува, Латвія, Эстонія. Упэўнены, што Украіна 1 снежня прагаласуе за незалежнасць. І толькі Беларусь застанецца па-ранейшаму калі не калоніяй, дык паўкалоніяй, эканамічным прыдаткам імперыі. Прычына, зразумела, у комплексе непаўнацэннасці, які выпрацавалі ў нашым народзе каланізатары і калабарацыяністы. Прычына—і ў пасіўнасці пераважнай часткі інтэлігенцыі, якой занятк і на Лысай гары і Узгор'і-2 мілейшыя, чым нейкая там барацьба за нейкую там незалежнасць. Тут прасочваецца заканамернасць: якая інтэлігенцыя, такі і народ. Менавіта так, а не наадварот. Калі адукаваныя, дасведчаныя людзі, якія мысляць сябе носьбітамі культуры, абаронцамі мовы і г. д., жывуць паводле прынцыпу «гары яно гарам», то што ж казаць пра вясковую цётку ці тых гараджанак, якія дзяўбуць лёд ломам і грабуць лісце ў парку? Іншая справа—улада. Нават пры дэмакратыі народ выбірае часцей не лепшых, а такіх, які ён сам. У нас дэмакратыі не было і няма. Таму не трэба наракаць, што ў нас кепскі (некультурны і некампетэнтны) Вярхоўны Савет, рэакцыйны ўрад, карыслівыя ўрадавыя чыноўнікі, а першая асоба Рэспублікі па-ранейшаму не задавальняе ні правых, ні левых, ні цэнтрыстаў (кажу пра сваю партыю—Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду).**

## 1.Караля робіць світа?

Станіслаў Шушкевіч — герой-адзіночка. Праўда, народным дэпутатам СССР і БССР ён стаў з дапамогаю дэмакратаў, найперш БНФ. Першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета яго абралі толькі таму, што менчукі ад сваіх тэлевізараў рынулі да Дома ўрада. Правінцыйныя дэпутаты, якія прыехалі з ціхамірных вёсак, мястэчак і гарадоў і ніколі з такім відовішчам не сутыкаліся, былі збянтэжаныя і спалоханыя. І абралі дэмакрата Шушкевіча.

Сам жа дэмакрат С. Шушкевіч не быў фармальна звязаны ані з БНФ, ані з іншым дэмакратычным аб'яднаннем. Гэта быў разлік. Разлік быў і ў тым, што, нелюбімы партапаратам, С. Шушкевіч заставаўся ў КПБ. Але найбольшая яго ўдача—выхад з партыі за 10 дзён да путчу. Ціхі, непрыкметны выхад, пра які ведалі адзінкі. Гэты крок цалкам задаволіў дэпутатаў ад БНФ, БСДГ, Аб'яднанай дэмакратычнай і Сялянскай партый, а таксама групу А. Лукашэнкі. Адстаўка М. Дземянцея была прадвызначана: калі б ён застаўся на пасадзе, адносіны з «цэнтрам» і Расіяй, з Балтыяй былі б вельмі папсаваныя. З дзейных лідэраў КПБ усе мелі падмочаную рэпутацыю, а В. Кебіча не любіць эканамічны істэблішмент, не кажучы пра дэмакратыю. Да таго ж прэм'ер-міністр не здагадаўся своечасова выйсці з КПБ.

Цяпер, калі С. Шушкевіч стаў на чале Рэспублікі, яго сіла стала ягонаю слабасцю. У яго няма палітычнай апоры. Камуністы-артадоксы яго не любяць, дэмакраты ставяцца крытычна, сакратарыят Вярхоўнага Савета, які ён абяцаў распусціць, працуе ў ранейшым стылі. А кіраўніку дзяржавы патрэбна інфармацыя, патрэбны «мазгавы трэст» з аналітыкаў, прагназістаў і аднадумцаў. Тое, што С. Шушкевіч не пачаў фарміраванне свайго штаба, паказвае, што ў яго няма пакуль што сваёй канцэпцыі развіцця Рэспублікі, нашай дзяржаўнасці. Пра гэта вымоўна сведчыць і тое, што ён ідзе ў фарватэры палітыкі Б. Ельцына — М. Гарбачова.

Але давайце згадаем: караля робіць світа. Можна сказаць: які Вярхоўны Савет, такі і яго Старшыня. Вярхоўны Савет складаецца ў пераважнай большасці з палітыкаў-аматараў. Амаль усе гэтыя старшыні, дырэктары, сакратары прабіваліся ў дэпутаты, каб дзякуючы мандату нешта выбіць для калгаса, саўгаса, раёна, горада. А тут—суверэнітэт. А тут—рынак. Трэба думаць. Думаць па-дзяржаўнаму, самастойна. Некаторыя, мусіць, шкадуюць, што выбіліся ў дэпутаты. Інакш чым растлумачыць, што цэлая сотня абраннікаў народа, як правіла, адсутнічае на пасяджэннях? Як бы там ні было, а наш Вярхоўны Савет нагадвае сельскі, пасялковы — здольны вырашаць лакальныя задачы. Калі ж прымаецца важная пастанова ці закон, то звычайна пад ціскам вонкавых абставін.

Вярхоўны Савет ідзе за падзеямі. Старшыня Вярхоўнага Савета — таксама. Вярхоўны Савет не адчувае сябе суверэнам, Старшыня — таксама. Таму й сустракаецца ў Германіі з трэццяраднымі дзеячамі. Прэзідэнтаў Расіі і Казахстана, Старшыню Вярхоўнага Савета Украіны прымаюць у Вашынгтоне, Парыжы, Лондане, Боне таму, што яны самастойныя, паважаюць свой гонар і гонар сваіх народаў. Геншэр вядзе перагаворы ў Маскве, Алма-Аце, Кіеве, Вільні, Рызе, Таліне і абмінае Менск. А чаго ён тут не бачыў і не чуў? Добра ведае: Вярхоўны Савет Беларусі і яго Старшыня сочаць за кожным рухам у Маскве, ловяць кожнае слова з Масквы і падтакваюць. З несамастойным дзяржаўным дзеячам лідэру самастойнай дзяржавы няма пра што размаўляць.

С. Шушкевіч клянецца ў вернасці Саюзу. Ён быццам не бачыць, што Саюза практычна няма, а ёсць — Расія, што М. Гарбачоў стаў заложнікам у Б. Ельцына. Ён быццам не бачыў і не ведаў, што Ельцын падбірае пад сябе структуры Міністэрства замежных спраў СССР. Ён быццам не бачыць і не ведае, што, прыкрываючыся размовамі пра адзінае войска і флот, Ельцын, па сутнасці, кантралюе Савецкую Армію і ВМФ, што праз год-другі не будзе Узброеных Сіл СССР. А потым не будзе і Галоўнакамандуючага, бо як толькі скончыцца 5-гадовы тэрмін, М. Гарбачоў перастане быць Прэзідэнтам і пойдзе на адпачынак. СССР, яго структуры перастануць існаваць дэ-юрэ.

Праваправаемніцай Савецкага Саюза Ельцын аб'явіў Расію. Ён жа заявіў аб прэтэнзіі на алмазны і залаты фонд СССР. Што рабіць Беларусі? Згадзіцца, дадаўшы пры гэтым, што ў такім разе Расія павінна аплачваць даўгі СССР. Калі ж яна не хоча рабіць гэтага, няхай аддасць нашу долю золата, плаціны, алмазаў.

Беларусі трэба вызначыцца ў вайсковым пытанні. Нашы хлопцы павінны служыць на Бацькаўшчыне. Годзе ім падстаўляць свае галовы то ў Афганістане, то ў Карабаху, то ў Чэчні. Свет чакае нашае заявы пра тое, што мы адмаўляемся ад ядзернай зброі і тым самым выконваем адпаведны Дагавор 1968 года. Мы павінны заявіць, што стратэгічная зброя будзе знішчана ў рамках Дагавору аб 50-працэнтным скарачэнні СНУ, што мы зацікаўлены ў знішчэнні тактычнае зброі (балазе з адпаведнаю прапановаю выступіў прэзідэнт Буш, а Гарбачоў яго падтрымаў). Не менш важна вызначыць ужо зараз, якое ў нас будзе войска, як узброена, бо трэба памятаць: ужо заключаны Дагавор аб звычайных узбраеннях, і Еўропа цяпер з насцярогаю ды зацікаўленнем пазірае на Менск, на Кіеў, Вільню, Рыгу, Талін, Кішынёў. Паўтараю: вайсковае пытанне трэба вырашаць і таму, што Расія спакваля, пакрыёма падбірае пад сябе Узброеныя Сілы СССР, і таму, што Еўропа чакае ад нас пэўнага й адназначнага адказу.

Яшчэ праблема — вайскоўцы, якіх выводзяць з Нямеччыны ды Польшчы. Тыя, што ўжо выведзеныя й

(Працяг на стар. 4).

# КУДЫ ВЯДУЦЬ ПАВАДЫРЫ?

(Пачатак на стар. 1).

атабарыліся на Беларусі, ані кроку не хочуць зрабіць на Усход. у Расіі — хлебныя карткі, там можа пачацца новая пугачоўшчына. Добра, дамо прытулак гэтым вайскоўцам. Але ці не занадта мы інтэрнацыяналісты, *каб прымаць яшчэ дзесяткі тысяч людзей*, многія з якіх не маюць ніякіх цывільных прафесій? Калі С. Шушкевіч адважыцца загаварыць пра гэта ўголас з прэзідэнтам Ельцыным і федэральным канцлерам Колем? Прынцып, па-мойму, павінен быць адзін: тыя, хто нарадзіўся і каго прызывалі на Беларусі, няхай застаюцца ў нас, няхай Нямеччына будуе ім жыллё, якое абавязалася будаваць, а астатнія — няхай вяртаюцца ў Расію, на Украіну... У нас яшчэ будуць праблемы. Многія вайскоўцы-беларусы ўжо зараз не хочуць служыць у Расіі, Казахстане, на Украіне. *Міністр абароны Украіны гатовы зрабіць* абмен афіцэрамі і прапаршчыкамі: нашы з Украіны вяртаюцца на Беларусь, украінскія—з Беларусі на Украіну. Ці не пара аформіць такую дамову юрыдычна? Ці не пара заключыць такую дамову з Расіяй, Казахстанам, іншымі краінамі?

Разумею: С. Шушкевіч баіцца раззлаваць Б. Ельцына і ягонага заложніка, які, як відаць з публікацый, ублытаны ў фінансавыя справы КПСС. Але спадар Шушкевіч павінен думаць пра Беларусь, пра яе годнасць, гонар, незалежнасць.

Што, Ельцын прыгразіў свабоднымі цэнамі на сыравіну? А як жа Расія будзе без нашай гатовай прадукцыі, без бульбы нарэшце? А ці не маем мы права браць пошліну за правоз расійскіх тавараў па нашай чыгунцы, аўтамабільных дарогах, пошліну за перакачку *нафты і газу праз нашу тэрыторыю, пошліны* за карыстанне нашай паветранай прасторай? Спецыялісты кажуць, што толькі ад перавозак па чыгунцы мы можам атрымаць 1,5 млрд. долараў. Не забывайма, што ў нас ёсць радовішчы нафты, соляў, фасфарытаў, сланцаў, вугалю, жалезнай руды, іншых карысных выкапняў.

Не ўсё так страшна. І Расіі, нягледзячы на яе імперскія замашкі, баяцца не трэба. Яна сама шмат у чым залежная — ад цывілізаванага свету. Мы можам стаць расійскай калоніяй дзеля нерашучасці спадара С. Шушкевіча.

У 1918—1920 гг. дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі, думаючы і дбаючы пра лепшую долю Бацькаўшчыны, стукаліся ў кабінеты гетмана Украіны, прэм'ер-міністра Летувы, «правадыра сусветнага пра*летарыяту» і начальніка Польскай дзяржавы,* самі ехалі на мірную канферэнцыю ў Парыж, дамагаліся прызнання Беларусі ад урадаў Фінляндыі, Чэха-Славакіі, іншых краін, адчынялі свае місіі ў Берліне, Рызе, Стамбуле... У Радзе БНР не было праціўнікаў такое дзейнасці. Наадварот, некаторыя крытыкавалі А. Луцкевіча за схільнасць да кампрамісаў з Польшчаю, Расіяй, за нерашучасць.

Каб жа спадар С. Шушкевіч паказаў Луцкевічавы «згоднiцтва» й «нерашучасць». І справа, відавочна, не толькі ў ягоных асабістых якасцях. Справа ў тым, што ён вырашыў па-ранейшаму стаяць па-над партыямі, мусіць, беручы прыклад з Ельцына. Дык Ельцын зноў стаў партыйным — свае крокі ўзгадняе з «Дэмакратычнай Расіяй». Справа і ў тым, што праціўнікі беларускай дзяржаўнасці сядзяць у нашай Радзе — Вярхоўным Савеце. *Гэтыя закамплексаваныя* паны аніяк не могуць пазбыцца сваіх прымхаў. Мала таго: у сваіх вернападданіцкіх адносінах да Масквы яны агрэсіўныя. Думаць за Беларусь, пра Беларусь, на карысць Беларусі яны не ўмеюць і не любяць тых, хто думае. Вось яшчэ каго баіцца спадар С. Шушкевіч.

Рана ці позна С. Шушкевічу давядзецца выбіраць: або прынцыповасць, рашучасць, або — палітычнае небыццё.

Думаю, у дэмакратаў, патрыётаў ёсць адно выйсце: пачаць барацьбу за рэферэндум аб роспуску Вярхоўнага Савета. Патрэбную колькасць галасоў на карысць рэферэндуму мы збяром. Упэўнены: народ прагаласуе за роспуск гэтага Вярхоўнага Савета. Вось тады С. Шушкевічу й давядзецца задумацца: з кім ён і за *што ён?*

## 2. РУКА РУКУ МЫЕ?

Распусціць Вярхоўны Савет неабходна і таму, што, пакуль ён ёсць, непарушна і незварушна ў крэсле прэм'ер-міністра сядзецьме В. Кебіч.

Падзеі 19—21 жніўня паказалі, што камунізм як ідэалогія і палітычная плынь несумяшчальны з дэмакратыяй. Распад КПСС-КПБ паказаў, хто ёсць хто ў *гэтай партыі. Артадоксаў няшмат, але яны — ваяўнічыя.* Большая частка камуністаў — інертная маса. Астатнія — цынікі, якія даўно гатовы капіталізавацца і капіталізуюцца, уводзячы явачным парадкам дзікае прадпрымальніцтва. Савет Міністраў Рэспублікі стварае рэжым найбольшага спрыяння гэтым дзялкам. Прыклады? Урад Рэспублікі прадставіў Вярхоўнаму Савету законапраект аб прыватызацыі — настолькі тэндэнцыйны, што яго назвалі праектам закона аб наменклатурнай прыватызацыі. Супраць яго паўсталі дэпутаты БСДГ, БНФ і... ветэраны, абураныя цынізмам *сваіх экс-таварышаў па партыі. Тае бяды, што закон* «правалілі»! Савет Міністраў яшчэ 23 верасня прыняў пастанову № 360, якою зацверджаны «Часовы парадак раздзяржаўлення эканомікі і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці Рэспублікі Беларусь». Справа ў тым, што апарат урада сам зацікаўлены ў тым, каб адхапіць самы смачны кавалак дзяржаўнага пірага. Толькі ў авантуры з «Італа-беларускай гандлёвай палатай» заблытаны намеснік старшыні Дзяржэканамплана, начальнік упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязяў Савета Міністраў, намеснік старшыні Дзяржкамітэта *па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні, загадчык* юрыдычнага аддзела кіраўніцтва спраў Савета Міністраў — усяго 8 чыноўнікаў.

Калі б Генеральны пракурор Рэспублікі М. Ігнатовіч асмеліўся і пачаў расследаваць прадпрымальніцкую *дзейнасць функцыянераў урада, мабыць,* адкрылася б такое, што за галаву хапацца трэба і к а р а в у л  г у к а ц ь.

Капіталізуецца не толькі кампартыйны і ўрадавы апарат. Кіраўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў ствараюць пры аб'яднаннях, фабрыках, заводах малыя прадпрыемствы, уліваюць у іх грашовыя (дзяржаўныя) ін'екцыі, каб потым зрабіць гэтыя МП групавой (калектыўнай) ці прыватнай уласнасцю. Зрэшты, працэс прыватызацыі малых прадпрыемстваў пачаўся.

Мы, сацыял-дэмакраты, патрабуем спыніць незаконную прыватызацыю, адмяніць пастанову Савета Міністраў № 360. І ў гэтым патрабаванні мы не адзінокія: нас падтрымліваюць прафсаюзы.

Урад В. Кебіча вядзе краіну да сацыяльных забурэнняў. Ён можа справакаваць новыя масавыя страйкі. Мы, сацыял-дэмакраты, і лідэры прафсаюзаў хацелі б унікнуць такое перспектывы. Тым больш, што гэтае забурэнне могуць выкарыстаць бальшавікі-артадоксы, якія апелююць да люмпенскіх груп да іхніх інстынктаў.

*Дык што, спытаюць, сацыял-дэмакраты супраць прыватызацыі?*

Не. Мы — за. Мы за цывілізаваную методыку прыватызацыі. Урад прапануе ўлічваць заробак рабочых і служачых. Але мы ведаем, хто ў нас меў зарплату, *вышэйшую за сярэднюю. Таму мы прапануем* улічваць працоўны стаж. Калі ў кватэры малады сын, які працуе год-два, то ягоны стаж прыплюсоўваецца да бацькавага. Калі бацька памёр, то сыну трэба залічыць хоць палавіну ягонага стажу. Гэтак будзе больш справядліва. Улічыць сукупны працоўны стаж грамадзян Рэспублікі няцяжка. Трэба толькі захацець.

Прыватызацыя прадпрыемстваў гандлю і бытавога абслугоўвання. Што прыватызуецца? Будынкі, памяшканні ці абсталяванне ў памяшканнях? Мусіць, толькі абсталяванне. Будынкі, памяшканні павінны заставацца ўласнасцю муніцыпалітэтаў. Гэтак робіцца і ў Сан-Францыска, і ў Берліне. Знойдуцца багатыя людзі — няхай будуюць свае супермаркеты. Але й зямля павінна заставацца гарадскою ўласнасцю.

У нас няшмат багатых людзей, якія могуць купіць краму, майстэрню, а тым больш — завод. Значыць, нельга і не трэба выключаць пераходу дзяржаўных прадпрыемстваў у групавую (калектыўную) уласнасць. Ва ўсякім разе прыватызацыя не можа праводзіцца без уліку думкі работнікаў кожнага прадпрыемства.

Але якую б выдатную методыку ні прыдумалі нашы спецыялісты, патрэбны незалежныя аўдытарскія групы, якія ацэньвалі б вартасць прадпрыемстваў, што раздзяржаўліваюцца. Мы надта добра ведаем нашу бюракратыю, каб давяраць ёй.

Яшчэ адно пытанне: у якой валюце ацэньваць гэтыя прадпрыемствы і жыллё? У «драўляных»? Надта рызыкоўна.

Вось тут мы і пераходзім да пытання пра эканамічную незалежнасць Рэспублікі, якую павінен забяспечыць кабінет В. Кебіча.

Больш дакладна было б гаварыць пра **эканамічную бяспеку** Беларусі. Усе мы здрыгануліся, калі пачулі аб намеры Расіі друкаваць свае рублі і падпарадкаваць сабе Дзяржбанк СССР. Якія ж разумнікі, падумалася мне, сядзяць ва ўкраінскім урадзе: увялі купоны, рыхтуюцца да выпуску грыўняў. А ў нас? Прапановы апазіцыі былі прыняты да ведама з халадком: гэта ж апазіцыя, сепаратысты прапануюць увесці талеры, а мы, камуністы, за Саюз. Трэба быць звышнаіўным чалавекам, каб верыць на ўсе сто працэнтаў ураду Ельцына ці ўраду Вагноруса, ураду Фокіна ці ўраду Годманіса. Свая кашуля бліжэй да цела, у кожнае Тарэсы свае інтарэсы. Выглядае, што кабінет В. Кебіча жыве інтарэсамі чужых дзяржаў. Гэта наогул паказальна для нашае бюракратыі: дбаць пра асабістыя інтарэсы і амаль цалкам ігнараваць інтарэсы сваёй дзяржавы, нацыі.

Можна наракаць на брак дзяржаўнага мыслення ў нашай бюракратыі. Можна нават апраўдваць яе: не прывучаная думаць самастойна, яна ніяк не можа звыкнуцца з думкай, што ў Беларусі можа і павінна быць самастойная палітыка. Але рана ці позна кабінет павінен адказаць за тое, што наша быдла «партызанскімі сцежкамі» ідзе ў Летуву, Латвію, за тое, што мы пакуль што ніяк не абароненыя ад рублёвай інтэрвенцыі з боку Летувы ды Латвіі. Рана ці позна ўрад павінен адказаць за халатнасць і галавацяпства.

Дзяржава — гэта тэрыторыя, насельніцтва і ўрад, які кантралюе гэтую тэрыторыю. Для кантролю патрэбны сваё войска, свая грашовая сістэма. Войска бароніць тэрыторыю, праз фінансава-крэдытную сістэму бароніцца эканоміка, яе стабільнасць, самастойнасць. Ці маем мы ў наяўнасці гэтыя адзнакі дзяржавы? Пытанне рытарычнае. Дзяржава — гэта свая дыпламатыя. Ці маем мы яе? Міністр П. Краўчанка сёетое робіць. На жаль, толькі міністр. Ды яшчэ дэпутат П. Садоўскі, старшыня парламенцкай камісіі. Дзяржава — гэта і свая служба бяспекі, разведка. Ці маем мы яе?

Гэты Вярхоўны Савет і гэты ўрад не ўсведамляюць сваёй адказнасці перад Бацькаўшчынай, перад гісторыяй.

Кожны ўрад мае перад сваім народам абавязак — гарантаваць яго палітычную, эканамічную, сацыяльную і культурную бяспеку.

Мне, прыкладам, было б цікава ведаць: хто асабіста ва ўрадзе Рэспублікі дазволіў прыехаць на Беларусь цэлай кагорце польскіх каталіцкіх місіянераў? Хто кантралюе іх дзейнасць? Колькі ў казаннях гэтых беспрацоўных (у Польшчы) ксяндзоў палітыкі і колькі рэлігіі? Чаму ўрад Беларусі дазваляе весці палітычную прапаганду і агітацыю замежным грамадзянам?

Цікава было б ведаць: таварыства «Палессе» — *гэта палітычная ці грамадска-культурная арганізацыя?* Чаму ж яна займаецца палітыкай ды яшчэ на карысць суседняй дзяржавы? А ўкраінскае грамадска-культурнае аб'яднанне на Берасцейшчыне? Чым займаецца яно? А Таварыства польскай культуры? Быў нядаўна ў Баранавічах. Помнік Я. Чачоту ставяць, а памятны знак на месцы бітвы гетмана Агінскага з Суворавым у Сталовічах паставілі беларусы. Так і трэба: Чачот і Агінскі — «літвіны». Але цікава: дзе ж тыя польскія культуртрэгеры, якія распінаюцца ў «доказах» сваёй любові «да нашай агульнай спадчыны»?

Гэты ўрад вучыць дзяцей па старых падручніках. Няма канцэпцыі нацыянальнай школы. Няма нават праекта навучальных планаў. Ці так і застанемся культурнай калоніяй? Вось сяджу і думаю: як пісаць падручнік па гісторыі Беларусі? Ці будзе ён па-ранейшаму 11 гадзін у 8 класе і яшчэ менш—у 9-ым? Ці ўсё-такі гісторыя Беларусі зойме месца гісторыі СССР? Сяджу і думаю: калі ж наш урад дасць даручэнне Міністэрству народнай адукацыі ўзгадніць канцэпцыю падручнікаў па гісторыі з адпаведнымі міністэрствамі Летувы, Польшчы, Расіі і Украіны? А як будуць вывучацца беларуская і руская мовы і літаратуры? У ранейшай прапорцыі? З ранейшымі тэмамі, манаграфічнымі раздзеламі і персаналіямі?

Пытанняў больш, чым адказаў. Помню, раней я пазбягаў пісаць аб беларускім урадзе: называў яго ўрадам Беларусі. Так было больш правільна. Не ўпэўнены, што і цяпер можна пісаць пра беларускі ўрад.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ,**
**член Цэнтральнай Рады БСДГ.**

# ПАМІНАЛЬНАЯ МАЛІТВА

**Халодным лістападаўскім днём на старыя яўрэйскія могілкі ў Валожыне прыйшлі людзі. Над паўразбуранымі надмагільнымі помнікамі прагучала памінальная малітва за памерлых і закатаваных — Эйл Молэ Рахмім. Людзей было няшмат. Але ёсць падзеі, сэнс і значэнне якіх не вымяраецца колькасцю яе ўдзельнікаў...**

У 1803 годзе ў мястэчку Валожын пачала дзейнічаць ешыва, якая стала прататыпам вялікіх рэлігійных навучальных *установаў ва Усходняй Еўропе,* а потым — у ЗША і Ізраілі. Сюды прыязджалі вучыцца з Англіі, Германіі, Амерыкі. Валожынскую ешыву скончыў славуты яўрэйскі паэт і тэарэтык Бялік. Адзін з галоўных равінаў у сённяшнім Ізраілі, заснавальнік рэлігійнай арганізацыі «Сыны Аківы» Кук — таксама яе выпускнік.

Зараз ад ешывы не засталося і следу. Захаваліся толькі могілкі, дзе пахаваны яе першыя кіраўнікі. У Валожыне, большасць насельніцтва якога некалі складалі яўрэі, жыве сёння ўсяго некалькі яўрэйскіх сем'яў.

Прыняць удзел у памінальнай малітве прыехалі сюды навучэнцы сучаснай ешывы з Ізраіля. Жыхар Валожына Г. Равінскі — сябра рады Беларускага краязнаўчага таварыства — расказваў пра гісторыю свайго горада, пра тое, *як летам 1942 года гітлераўцы* расстрэльвалі яўрэяў на могілках, як спалілі жывымі некалькі чалавек разам з домам. У агульных магілах пахаваны разам з яўрэямі беларусы, палякі, рускія.

Арцыбіскуп К. Свёнтак прачытаў на гэтым святым месцы малітву. Прачытаў тройчы: па-*беларуску, па-руску і па-польску.*

Наша зямля — святая. І аднаўляць яе, жыць на ёй па-новаму трэба нам усім разам, — гаварыў на цырымоніі і старшыня Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў.

У той дзень тут сабраліся вельмі розныя людзі: прадстаўнікі яўрэйскай абшчыны з Мінска і жыхары Валожына, народныя дэпутаты і прэм'ер-міністр Беларусі, святар і доктар філасофіі, грамадскія дзеячы, журналісты. Сабраліся, дзякуючы намаганням Я. Гутмана, які прадстаўляў Аб'яднаны камітэт па захаванні яўрэйскай гістарычнай спадчыны, а таксама Літоўскі гістарычны цэнтр. (Штаб-кватэра гэтых арганізацый знаходзіцца ў Нью-Йорку). Дапамогу ў арганізацыі аказаў дырэктар Дома літаратараў пісьменнік А. Жалязоўскі.

Тут не было загадзя падрыхтаваных выступленняў. Да мікрафона мог падысці кожны. Многіх прысутных кранула выступленне народнага дэпутата Беларусі Л. Баршчэўскага, *які пачаў яго некалькімі сказамі* ні ідзіш. Мы спадзяёмся, сказаў ён, што адраджэнне яўрэйскай культуры, яе святыняў — так, як і культуры іншых народаў Беларусі — справа блізкай будучыні.

Калі цырымонія ўжо завяршалася і Старшыня Саўміна Беларусі В. Кебіч усклаў кветкі да магіл, да мікрафона падышоў раптам нейкі чалавек. Быў ён апрануты не ў самае чыстае адзенне і не вельмі цвёрда *трымаўся на нагах — з прычыны* выхаднога дня. Няўмела, з цяжкасцю падбіраючы словы, ён звярнуўся да мясцовых жыхароў, сваіх суседзяў. А сэнс яго нязграбных слоў быў просты і чалавечны: давайце помніць, што тут пахаваны людзі і самі будзем людзьмі, што не трэба на могілках пасвіць козы, выкідаць смецце і друз.

Гэты чалавек, напэўна, і не чуў пра акт вандалізму, учынены нядаўна на яўрэйскіх могілках у Барысаве нашымі, так бы мовіць, суайчыннікамі. Але я ўпэўнены, што ён мае права *называцца чалавекам, грамадзянінам* Беларусі. А ў тых вылюдкаў няма бацькаўшчыны, няма нацыянальнасці.

Колькі такіх закінутых могілак па ўсёй Беларусі — праваслаўных, каталіцкіх, яўрэйскіх, татарскіх. Здаецца, прывесці іх да ладу, адрадзіць шматлікія культурныя і гістарычныя помнікі на нашай зямлі — справа непасільная. Іншы раз здаецца нават, што яна ўжо нібыта нікому і непатрэбная. А ўсё-такі пачынаць трэба. Пачынаць з самых, мабыць, простых рэчаў. Час збіраць камяні. Гэтыя біблейскія словы маюць і канкрэтны сэнс.

Пад агароджу вакол яўрэйскіх могілак у Валожыне выкапана траншэя. У мінулую нядзелю, *пасля памінальнай малітвы,* у яе ляглі першыя камяні, з якіх складзецца падмурак. Адзін з камянёў заклаў прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь.

Віталь ТАРАС.

**Лімаўскія «пуцявіны» прывялі мяне ў Вільню—горад, у якім апошнім часам пачынае гуртавацца адмысловы беларускі асяродак. У Летуву нават пераязджаюць менскія журналісты, перакладчыкі, літаратары. Яны супольна з віленскімі беларусамі і аднавілі ўвесну 1991 г. «Нашу Ніву», — тую самую газету нашага Адраджэння.**

**Што прывабіла людзей, якія перабраліся ў Вільню! Каб зразумець феномен гэткай своеасаблівай эміграцыі ў Летуву, я выбраўся ў Вільню да Сяргея Дубаўца, які ўвосень 1990 г. мо й падаў прыклад пярэбараў. Два апошнія гады С. Дубавец рабіў у Менску адзінае да нядаўняга часу незалежнае выданне — газету «Свабода», змагаючыся за нашу і вашу свабоду ў апазіцыі. Зараз жа ён жыве ў Вільні і рэдагуе «Нашу Ніву», па чатырох нумарах якой бачны пераход рэдактара ад апазіцыйнасці да людскасці, ад палітыкі да эстэтыкі: доўгачаканая, усцешная з'ява ў адраджэнскім руху.**

**Яго асоба цікавіла мяне даўно: усё карцела выведаць, дзе ён чэрпае адвагі і, галоўнае, — настырнасці ў вядзенні нашай справы па-свойму. І пуцявіны павялі ў Вільню...**

ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ

# Сяргей ДУБАВЕЦ:

# «ПАДПОЛЬНЫ НАЦЫЯНАЛІЗМ І ДЗЯРЖАЎНАЕ БУДАЎНІЦТВА—РОЗНЫЯ РЭЧЫ. ТРЭБА ВЫБІРАЦЬ»

**Гутарку вядзе Юрась ЗАЛОСКА**

**— Сяргей, ужо амаль год, як ты ў Вільні стала. Напярэдадні пераезду ты выказаў думку, што Вільня — «наша». Дык у якую ж Вільню ты трапіў—нашу ці якую-небудзь іншую?**

— Для мяне гэта такое самае пытанне, як — ці наш Менск? Ці наша Беларусь! Ці нашыя мы самі?..

Вільня для беларуса пахне домам — прызабытым, жаданым і... незваротным. Нешта падобнае адчуваеш у старым Навагрудку, і яшчэ гадоў 20 таму можна было адчуць у Мазыры. Я магу сказаць, што для мяне Вільня свая, і калі ты кажаш тое самае, тады для нас двух яна — наша. Гэта як і нацыянальнасць — адно патаемнае пачуццё яднае людзей у нацыю. Мы кажам: наша мова, наша мінуўшчына, наша Вільня — так, як брат і сястра кажуць: наш дом.

Напэўна, у чалавечым жыцці мусіць быць нешта большае за гэтае жыццё. Я пазайздросціў Сартру, які на працягу 30 гадоў у адным і тым шапіку на рагу адной і той вуліцы набываў адны й тыя цыгарэты, і я... пераехаў у Вільню. Ужо няма таго горада, у якім я нарадзіўся, і таго, у якім вырас і жыў. Там не пахне цяпер домам. А Вільня — што пяць, што дваццаць гадоў назад, што цяпер — тая самая. Магчыма, тут жыве дух беларускага мястэчка, які колісь жыў па ўсёй Беларусі, але нідзе так і не развіўся ў дух сучаснага беларускага горада, бо быў адкінуты прышлымі урбанізатарамі.

Добра, калі з гадамі ты змяняешся адносна свайго горада, а не наадварот. Менск на маіх вачах змяняўся адносна такіх рэчаў, як Партыя, Ленін, Камунізм, а яны заставаліся нязменныя і ўвасабляліся вечнасць. Сёння, калі раптам не стала тых максімаў, няма і майго Менску, Няма Круглай плошчы, няма Цэнтральнай, няма колішніх шапікаў, дзе я набываў першыя цыгарэты. Гэты Менск, магчыма, стане домам для нашых дзяцей, а, магчыма, і яны перажывуць яго.

Вільня свая і для мяне, і для старога Луцкевіча, для кожнага настолькі, колькі ён гэтаму гораду аддаў. Бо «аддаў» і значыць — «прысвоіў». Спрачацца трэба не за тое, **каму** належыць Вільня, а за тое, каб належаць **ёй**. За ўвесь пасляваенны час урад БССР не даў Вільні ані капейкі, ані цагліны, ані якой «чалавекахвіліны». А колькі ў тутэйшыя польскія асяродкі, школы, друк, у рэстаўрацыю старога горада ўклала Варшава! Магчыма, гэта якраз тыя сродкі, якія мусіў уклaсці Менск. Але не ўклаў, і цяпер палякаў на Віленшчыне ў некалькі разоў больш, чым беларусаў.

Рацыя: быў бальшавізм, была стаўка на тры асноўныя нацыянальнасці — летувісаў, расейцаў і палякаў. Дзве апошнія тут не карэнныя, у краі няма ані польскага, ані расейскага аўтэнтычнага фальклору. Гэтыя культуры ўводзіліся сюды заўсёды штучна, праз экспансію. Прайшлі магутныя хвалі русіфікацыі і паланізацыі, была знішчана амаль уся беларуская інтэлігенцыя — сотні настаўнікаў, літаратараў, палітыкаў... Але быў захаваны горад — традыцыя, у якую нябачным складнікам уваходзіць і беларускі дух.

У 1985 годзе без аніякай дапамогі з Менска (адкуль дагэтуль чуваць інерцыя палітыкі адчужэння «Вільнюса» і летувісаў) гэты дух пачаў матэрыялізавацца і за шэсць гадоў набыў рэальныя формы. Мала сказаць пра дзесятак згуртаванняў і арганізацый: трэба прыйсці на пасяджэнне віленскіх беларусаў і пабачыць поўную залу беларускіх дзядоў. Што такое менскія ветэраны беларушчыны, самыя «старыя» з іх? У Вільні на такіх яшчэ глядзяць як на падшпаркаў!.. Луцкевічы, Станкевічы, Каўшанка, Дуж-Душэўскі... Адчуваеш, як пад твае звыклыя да пустаты ногі падплывае трывалая глеба. Як гарантыя ад паўтарэння памылак, ад хранічнае нясталасці нашага адраджэнства, ад страты каардынацыі рухаў.

...Зоську Верас, апошнюю з нашаніўцаў, мы хавалі, выдаўшы трэці нумар аднаўленае газеты. Як нехта сказаў, «паспелі завязаць вузел».

**— У сакавіцкіх «накідах стратэгіі» («Свабода», № 5) ты, дарэчы, сцвярджаў, што без Вільні Беларусь «рызыкуе больш ніколі не адрадзіцца». Але цяпер ужо няма колішняй палітычнай неспадзяванасці: Вільня пэўна застанецца за летувісамі. Ці не выглядае беларуская прысутнасць у Вільні як аматарска-іміграцыйны феномен, якому ўжо ніколі не набыць вызначальнага ўплыву на Вільню? Можа, ёсць варыянты нашага валодання Вільняй, якія б скасавалі рызыку нашага не-Адраджэння без яе?**

— Без Вільні нічога не атрымаецца. Прынамсі, **ужо.**

Што да неспадзяванасці, дык яе не бывае толькі ў аднамернай палітыцы таталітарных дзяржаў, якой быў Савецкі Саюз. Апошнія гады пасля кожнай станоўчай падзеі собіла думаць, што «гісторыя ўжо адбылася», але за станоўчымі ішлі падзеі адмоўныя і паказвалі, які крохкі навокал свет. Не думаю, што ў геапалітычнай сітуацыі сёння запанавала стабільнасць. Выйшлі са сну, але яшчэ нікуды не прыйшлі ані Расея, ані Польшча, ані Беларусь, ані Летува. Ніхто не можа сказаць, што будзе ў Расеі праз месяц, што будзе ў Польшчы праз год. Ніхто таксама не гарантуе нас ад экспансіі гэтых краінаў. А гістарычны досвед — наадварот — касуе найменшыя гарантыі. Уся надзея толькі на тое, што «свет стаў іншы». Але — ці стаў? І ці наш гэта свет?..

Уплываць на Вільню мы можам толькі праз аднаўленне свайго нацыянальнага жыцця ў Вільні — школ, музея, друку, суполак... Але гэты горад настолькі самадастатковы, «кандыцыйны», што, мне здаецца, гэта ён уплывае на нас, а не мы на яго.

Рана ці позна незалежнай Беларусі трэба будзе вызначаць сяброў у сваёй вагавай катэгорыі — паміж неімперскіх нацый-суседзяў. Першы такі сябра — Летува, з усіх суседзяў самая далёкая й самая блізкая. А першая падстава для аднаўлення добрых стасункаў — супольны клопат пра Вільню, абумоўлены, між іншым, рэальным фінансавым становішчам абедзвюх краін і аб'ёмам неабходнае рэстаўрацыі. Але найперш у Менску мусяць зразумець, што беларусы маюць на Вільню такое ж гістарычнае права, як і летувісы — г. зн. не меншую нясуць адказнасць. Горад запатаковалі крывічы, тут была сталіца нашай супольнай дзяржавы, якую беларусы баранілі і адбудоўвалі пасля войнаў, тут быў цэнтр антырасейскіх паўстанняў 1794, 1831, 1863 гг., тут—Каліноўскі, Багушэвіч, тут, уласна, і адрадзілася беларусы ў нашаніўскую пару, тут — Купала, Колас, Цётка, тут была сталіца Заходняй Беларусі, сотні беларускіх выданняў... Усё гэта было. І адраджэнне канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага было б ці не лепшым варыянтам новай беларускай палітыкі.

Валодаць Вільняй — гэта найперш «валодаць пытаннем». Што толку «валодаць» Полацкам, Навагрудкам, Берасцем, не ўяўляючы пры гэтым, **чым** валодаеш. Дзеля нацыянальнага адраджэння ад гэткага валодання мала карысці. Як той казаў, «тэхніка ў руках дзікуна — груда металу». Сэнс у тым, каб валодаць Вільняй так, як мы валодаем Бацькаўшчынай ці, скажам, Янкам Купалам, альбо — роднай мовай.

Калі казаць пра эміграцыю... Нехта пажартаваў: Вільня—самы блізкі ад Менска абласны горад. Асабіста я не пачуваюся эмігрантам у атачэнні беларусаў і старой нацыянальнай традыцыі за 200 км ад Менска, за 100 — ад жончынае вёскі і за паўдня пешай хады ад Рэспублікі Беларусь. Зрэшты, дзе тая Беларусь пачынаецца, а дзе канчаецца?

У Шумску-Шумскасе спыталіся ў тамтэйшага дзядулі пра мясцовага леснікa, а дзядуля й кажа: «Стары ляснік памёр, а новы з Літвы прыязджае». А вы на якой мове гаворыце? «На беларускай». А самі хто? «Паляк. Тут жа Польшча была». А газеты беларускія чытаеце? «Не, цяжка рускімі літарамі разбіраць. Вось радыё слухаем».

Беларускае радыё тут бярэцца добра. Толькі вось калі ні ўключыш Менск, а там — «Говорит Москва». Беларуская тэлевізія не бярэцца, бярэцца польская. Напэўна, трэба было б дамагчыся рэтрансляцыі беларускай тэлевізіі, але, баюся, яна будзе непрыемна нагадваць паўгадовае вяшчанне тутэйшых кампарцейцаў з захопленай праз забойства людзей тэлевежы. Кажуць, у пракуратуры Летувы ёсць дакументы пра тое, што таварышу Каспяровічусу, які ўзначальваў тое вяшчанне, ахвотна дапамагалі таварышы «из Белоруссии», з ведамства таварыша Сталярова. Так што БТ — пакуль не той «культурны фактар», якога нам варта дамагацца...

Шумск — гэта на ўсход. Але такія ж гутаркі былі ў нас і на захад (Трокі, Грыгішкі), і на поўнач ад Вільні. Алег Мінкін жыве ў Юсцінішках (мікраён у кірунку Рыгі), бегае кросы каля бліжніх вёсак. Дык старыя людзі, кажа, гавораць на «зусім літаратурнай» беларускай мове. Што ўжо казаць пра наш раён — Новую Вільню: тут мову на вуліцы пачуеш штодня.

Тэлефануе знаёмы, кажа — у нас на заводзе працуе 2 тысячы беларусаў — прыйшлі б, стварылі якую арганізацыю... Каля парламента кабета, сама летувіска, цётка Зіта, падыходзіць і кажа: вы беларусы? А я евангелістка. У нас у суполцы 400 чалавек, 60 % беларусы. І прасвітар беларус, і намеснік. А як пяюць! Паставіла нам касету, а там аркестр і голас — чысты і стройны, мужчынскі. І ўсё пра краявіды, пра Бацькаўшчыну, пра родную мову. І пра Бога...

Аддалі беларускай супольнасці яе даваенную маёмасць — тры дамкі на вуліцы Жыгімонта. Пачынаем рабіць рамонт. Замовілі тынкоўшчыка — прыходзіць, па-беларуску гаворыць, хлопец з Солаў. Замовілі электрыка — тое самае, з Ашмян. Гэта я да таго, што такія прыклады можна доўжыць бясконца.

Рызыку не-Адраджэння ў дадзеным выпадку можна скасаваць праз рэальную дапамогу беларусам Віленшчыны з Менска, пранікальныя межы, папулярызацыю «крывіцкай Мекі» ў самой Рэспубліцы Беларусь.

**— Цяпер, здаецца, у нас з'явілася магчымасць змяніць «метафару надлому» (беларускае жыццё то па заходнім, то па ўсходнім часе, не змяняючы свайго) і звязаць парваныя ніткі УЛАСНАГА натуральнага гістарычнага развіцця... Але ж за апошні час (скажам, год-два) да адраджэнцаў-незалежнікаў («тысячы») далучылася не так і багата новых людскіх сілаў. Колішнія незалежнікі-падпольшчыкі па-ранейшаму як бы ў ценю, а паспаліта кіруюць і нешта вырашаюць «дзеячы ўчорашніх дзён»... А гэтыя дзядзькі здатныя надзейна заблытаць парваныя ніткі... Ці здольны адраджэнскі рух унікнуць такой перспектывы?**

— Здольны, але што для гэтага трэба? Што рабіць, калі стаіш на раздарожжы эстэтыкі і палітыкі, сам схіляешся да першай, а сітуацыя хіліць да другой? Трэба выбіраць.

Адраджэнскі рух, якім ён прыйшоў з падполля, не аддзяляў эстэтыку ад палітыкі і зусім не думаў пра камерцыю. Палітычная дзейнасць Пазняка выражалася ў змаганні за помнікі старога Менска, Садоўскага — у змаганні за культуру мовы, Чарняўскія напаўнялі палітычным зместам свае археалагічныя пошукі. Інакш было нельга. А сёння можна толькі **інакш.** І многія ўчарашнія мастакі становяцца прафесійнымі (г. зн. «чыстымі») палітыкамі. З'яўляюцца ўжо і «чыстыя» мастакі. Камерсанта, які выйшаў з адраджэнскага руху, я ведаю пакуль толькі аднаго — гэта Павел Жук.

Адраджэнскі рух — грыбніца новае беларускае інтэлігенцыі: палітыкаў, мастакоў, прадпрымальнікаў. У гэтых людзях ужо закладзена тое, што можна параўнаць з прыродным высакародствам дваранства. Што ж тычыцца тых палітыкаў, мастакоў, камерсантаў, якіх у часы стагнацыі мала хвалявалі знікненне цэлай старажытнай культуры, лёс Беларусі і яе народа,— дык менавіта гэтыя людзі могуць заблытаць парваныя ніткі і... іх значна болей, чым кола «дзеячаў учорашніх дзён».

Вось дзве праблемы. Праблема кадраў, якая шчыльна звязана з праблемай выбару. Скажам, Віленшчыне патрэбна беларуская газета, нармальная «раёнка», а я хачу выдаваць нешта «вышэй галавы». Інакш не варта, па-мойму, рабіць нічога. І я выбіраю сваё.

На газету (прынамсі, пакуль яна стане на ногі) патрэбны немалыя грошы. А ў нас сёння няма такіх дабрадзеяў, як Магдалена Радзівіл ці Раман Скірмунт. Трэба зарабляць нейкімі пабочнымі справамі. А гэта значыць, зноў паступацца прафесіяналізмам, мяшаць эстэтыку з камерцыяй. Усё ж з пункту гледжання камерцыі беларушчына — сфера досыць экзатычная, хоць і перспектыўная, маючы на ўвазе будаўніцтва сваё дзяржавы.

Нацыяналізм у падполлі і дзяржаўнае будаўніцтва — зусім розныя рэчы, як дылетанцтва і прафесіяналізм. Трэба выбіраць. Плён сёння даюць тыя, хто выбраў. А тыя, хто працуе па-ранейшаму, выклікаюць пачуццё жалю. Беларушчына цяпер — не клуб аматараў: ёй патрэбны дзяржаўныя галовы і работнікі. Можна бясконца папракаць «лянівую моладзь», але школа ўсё ж пачынаецца з настаўніка, а не з вучняў. Школа — у самым шырокім сэнсе. Гэта і палітычная партыя, і выданне, і эстэтычны кірунак. Страта нацыяй пачуцця пераемнасці адбіваецца і на адраджэнцах. Маю на ўвазе пераемнасць, скіраваную ў заўтра. Учора мы казалі: **апрацаваць чалавека**, беларусізаваць. Сёння трэба **працаваць з людзьмі**, стварыць скажам, калектыў прафесійных работнікаў дзеля выдання газеты або дзеля партыйнай работы, стварыць функцыянальную структуру. І зусім неабавязкова, каб людзі былі фанатыкамі тваёй ідэі, яны могуць цудоўна ажыццяўляць нацыянальную ідэю, працуючы адно дзеля добрага заробку. А твая справа — арганізаваць іхнюю працу і забяспечыць заробак.

**— Ёсць яшчэ адзін закід: акрамя таго, што адраджэнскаму руху па-ранейшаму бракуе людзей, беларускаму абывацелю не патрэбны гістарычна-беларускія набыткі (з іх найперш самы духоўна-вызначальны—незалежнасць). А тады й мала шанцаў хутка змяніць геапалітычную арыентацыю з «эсэсэсэрыі» на еўрапейскую супольнасць. Выяўляецца, што зварот страчанага інстытута незалежнасці ў сённяшніх умовах вельмі цяжка забазаваць на колішніх каштоўнасцях: уніяцкай царкве як кансаліданце рэлігійным, дарэформавым правапісе як кансаліданце моўным,—гэтыя каштоўнасці для абывацеля не стануць сваімі, натуральнымі. На што ж разлічваеце вы, аднаўляючы выданне колішняй «Нашай Нівы»?**

— Дзяржаўнае будаўніцтва грунтуецца на згаданай пераемнасці, на грунце пад нагамі. У нашым выпадку гэта дзяржаўныя рэаліі БНР, мадэрнізаваныя рэаліі Вялікага княства Літоўскага. Вярхоўны Савет пачаў з самага простага — сцяг і герб. Далей мусіць быць рэформа ўсяго дзяржаўнага апарату, заканатворчасць з максімальным прыцягненнем

(Працяг на стар. 12).

**ЛІСТ З КАМЕНТАРЫЕМ**

# Дык ёсць «Тэатральная Беларусь»?

**У штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» за 20 верасняу г. г. прачытаў інтэрв'ю з А. Сабалеўскім, у якім паведамляецца, што ў 1992 годзе ўсё ж будзе выходзіць часопіс «Тэатральная Беларусь». Я падпісаўся на яго і ў мінулым годзе, але ён, як цяпер высветлілася, не выходзіў. Цяпер я паспрабаваў пераафарміць падпіску на яго, але ў нашым Карэліцкім раённым агенцтве «Саюздрук» нічога пра яго невядома. Мяне часопіс вельмі цікавіць, бо хачу быць у курсе тэатральнага жыцця Беларусі. Асабліва мяне цікавіць драматургія, якая, як слушна заўважыў прафесар А. Сабалеўскі, не мела сваёй друкаванай «трыбуны».**

**В. ХІЛІМОНАЎ.**

г.п. Мір.

**Мы пазнаёмілі з лістом нашага чытача галоўнага рэдактара часопіса «Тэатральная Беларусь» А. Сабалеўскага.**

●

У першы ж дзень, калі пачыналася падпіска на перыядычныя выданні, г. зн. 1 жніўня 1991 года (ужо была пастанова аб стварэнні рэдакцыі часопіса «Тэатральная Беларусь» вырашаны шэраг пытанняў арганізацыйнага парадку») да начальніка Белсаюздруку Г. І. Панфіловіч было даведзена рашэнне заснавальнікаў часопіса аб памяшчэнні яго кошту, як і паведамлена, што «Тэатральная Беларусь» у 1992 годзе абавязкова будзе выдавацца. Пазней мы яшчэ раз афіцыйна звярталіся і да Г. І. Панфіловіч, і да начальніка дзяржаўнага прадпрыемства «Мінская пошта» У. П. Маслава, і ў іншыя ўстановы. А тым часам працягвала тварыцца штосьці незразумелае. У некаторых аддзяленнях прымалі падпіску па старой (завышанай) цане. У іншых жа (і, відаць, у большасці) не прымалі яе зусім, назву часопіса ўвогуле выкрэслівалі з каталогаў, спасылаючыся на нейкія распараджэнні. Нярэдка тэлефон літаральна разрываўся ад званкоў — устрывожаныя чытачы паведамлялі аб немагчымасці падпісацца на «Тэатральную Беларусь» з розных канцоў Мінска, з іншых гарадоў і пасёлкаў рэспублікі. Нашы чарговыя захады станоўчых вынікаў, па ўсім відаць, не мелі. Містыфікацыя працягваецца.

Карыстаючыся выпадкам, паведамляю, што калектыў рэдакцыі ўжо здаў у вытворчасць першы нумар, які, мяркуем, выйдзе ў свет на пачатку 1992 года. Вядзецца падрыхтоўка матэрыялаў другога і трэцяга нумароў. Падпісная цана, як і рознічная, на адзін асобнік — 70 кап., на паўгода — 2 руб. 10 кап., на год — 4 руб. 20 кап. **Індэкс — 75012.**

Хочацца верыць, што мы знойдзем дарогу да чытачоў, як і чытачы да нашага часопіса. Але навошта тады існуюць паважаныя ўстановы, на «паслугі» якіх плануюцца немалыя сродкі?

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ,**
галоўны рэдактар часопіса «Тэатральная Беларусь».

## Анкета «ЛіМа»

**Мяняецца сітуацыя ў грамадстве. Адбываюцца відочныя і пакуль невідочныя тэктанічныя зрухі ва ўсіх сферах жыцця, натуральным чынам — мяняецца наша светаўспрыманне. Сёння ўсё часцей даводзіцца чуць ад літаратараў песімістычныя прагнозы наконт блізкай будучыні прыгожага пісьменства. У сувязі з гэтым «ЛіМ» распаўсюдзіў сярод сваіх чытачоў — пісьменнікаў і крытыкаў — анкету, спадзеючыся пачуць ад іх адказы на наступныя — свядома завостраныя — пытанні.**

**1. На што, па-вашаму, абапірацца творцу, у прыватнасці, пісьменніку ва ўмовах «міжчасся», няўхільнага насоўвання рынку! Ці можна сёння пісаць, як раней, — як бы па інерцыі!**

**2. Як вы ставіцеся да спробаў стварэння беларускай «масавай культуры», да жадання некаторых маладых літаратараў здабыць вядомасць, спадабацца чытачам «любой цаной»!**

**3. Ці дапускаеце вы, зноў жа ўлічваючы «рынгачныя» густы, свядомую эксплуатацыю той ці іншай «моднай» формы! Ці дапаможа нам арыентацыя на фармальны пошук і чужыя знаходкі ў вырашэнні моўных, чытацкіх і іншых праблем!**

**Леанід ҒАЛУБОВІЧ**

# ТВОРЦУ ДАПАМАГАЕ ЎСЁ

1. Любы творца заўжды павінен абапірацца на сумленне і талент, канечне, калі яны ў яго ёсць. І гэта незалежна ад усякіх умоў, толькі не ад «міжчасся», бо, як для мяне, то гэта няведама што. Я заўсёды жыву ў канкрэтным часе: альбо пішу, вяртаючыся да мінулага, альбо фантазірую, намагаючыся ў будучае. Але я ніколі, ні хвіліны не жыў між часам, бо гэта практычна немагчыма. Тут «міжчассе» стаіць у двукоссі і, вядома, у ім закладзены падтэкст, аднак я яго ўсур'ёз не ўспрымаю.

Ну якая, скажыце, розніца для пісьменніка — насоўваецца рынак, сацыялістычны ўклад жыцця ці камуністычнае заўтра?! Ён піша, адштурхоўваючыся ад рэалій, аналізу і фантазіі. Так ці іначай — яму трэба пісаць. Другая справа — што і як? Гэта залежыць ад таленту. Многія кніжкі, напісаныя ў часы застою, маюць большую літаратурную вагу, чым мноства тых, што напісаны ў скараспелыя гады перабудовы. І не адкрыю тут вялікага сакрэту, калі скажу, што на галодны страўнік пішацца хоць і цяжэй, але значна ясней...

Любы чалавек у прынцыпе, падпарадкоўваючыся прыроднай эвалюцыі, жыве па інерцыі. Выпхнуўшыся з мацярынскага лона, мы ўжо не можам прыпыніцца да смерці. Бесперастанны рух усяго існага — закон жыцця. І ў літаратуры— тое ж самае. Калі пачаў чалавек з дваццаці гадоў друкаваць бязглуздзіцу, то ёю і скончыць, можа, толькі ў «таўсцейшых» маштабах. Іншая справа, што па ходзе творчай інерцыі можна прафесійна авалодаць рыфмай, стылем, формай... Аднак бяздарнае прыжываецца і «квітнее» ў любой выкшталцонай форме.

2. Я не думаю, што ў нас існуюць толькі **спробы** стварэння масавай культуры, я перакананы, што яна ў нас ужо ёсць. І павінна быць! Як любы цывілізаваны чалавек, я за развіццё масавай культуры, тым больш, калі яна будзе рабіцца на беларускай мове і грунтавацца на беларускай культуры. Гэта дасць штуршок для развіцця і пашырэння ўжытку нашай мовы, а таксама рассуне гарызонты для разумення і агляду сусветнай цывілізацыі. Бо, у сваёй большасці, наш народ яшчэ вельмі цёмны і недасведчаны.

А наконт літаратурных масавых з'яў... Бестселеры фантастычнай, дэтэктыўнай і прыгодніцкай літаратуры, на мой погляд, праб'юць ход для сур'ёзнай мастацкай літаратуры, якая зараз варыцца сама ў сабе, застаючыся па сутнасці без чытача.

Калі малады літаратар не задумваецца над пытаннем уласнай вядомасці, а гэта значыць, над прызнаннем сабой сваёй таленавітасці — гэта творчая смерць. Вядомасць для мяне, перш за ўсё, асацыіруецца з пісьменніцкай вартасцю, а таму — і ўчора, і сёння, і заўтра—для набыцця гэтай вядомасці-вартасці я, як пяецца ў расейскай песні, «за ценой не постою». Чаго і іншым жадаю. Канечне, не любой цаною, але ажно да нешкадавання ўласнай творчай крыві — гэта адназначна.

Праўда, зраблю адно вымушанае адступленне. З задавальненнем чытаю адноўленую ў Вільні «Нашу Ніву». Шчыра скажу, што яна ўжо сёння з'яўляецца моцным канкурэнтам «ЛіМу». І каб жа не «выпендрёшь»...

Вось, чытаю ў трэцім нумары «Лісты пра сучасную літаратуру» маладога інтэлектуала, схаванага за подпісам Францішак Эн. Ён не палемізуе з Л. Корань, якая надрукавала ў «ЛіМе» артыкул «Агрэсія формы», а здзекліва займаецца перад намі калялітаратурным ананізмам. Адразу заўважыўшы чытачам, што ён больш знаёмы з бітнікамі, По, Форманам, Джойсам, Кафкам, Дэрыду, Борхесам, Оруэлам, Голдзінгам, Нікальсанам і Кісі, чым сама Л. Корань, пачынае даводзіць нам, што яна завысіла літаратурную адзнаку Федарэнку і яўна, ну, яўна знізіла яе Мінкіну (супрацоўніку «Нашай Нівы», цудоўнаму паэту і перакладчыку). Бо першы абапіраецца ў творчасці на рускую класіку (як жа ён пасмеў мець нешта агульнае з расейшчынай?!!), а другі — на замежную класіку, і ведаць ён не ведае, і чытаць не чытаў ніякіх там расейскіх Пушкіна ды Ясеніна!

Я прачытаў гэты досвед, двойчы зазірнуўшы ў слоўнікі, але, як мне падказвае інтуіцыя, ці не часцей за мяне заглядваў у тыя ж слоўнікі і сам аўтар гэтай звышэрудзіраванай патэтыкі. Нягледзячы на заяўленую з першых радкоў іронію, варожасць да іншадумства тут непрыхаваная.

Канечне, артыкул Л. Корань выклікае некаторыя непагадненні і ў мяне, аднак, нават зважаючы на больш значнае яго неўспрыманне з боку літаратараў, лічу, што гэта адзін з лепшых артыкулаў пра маладую літаратуру, які надрукаваны ў нашых афіцыйных літаратурных выданнях за апошні час. І — дадам — напісаны значна таленавіцей, чым іншыя артыкулы на падобную тэму аўтараў больш вопытных.

Дык вось, **такой** вядомасці і менавіта **такой цаною,** якою здабывае яе не надта таямнічы Францішак Эн., я паасцярогся б...

3. Рыначныя густы даволі разнастайныя. Літаратурныя — таксама: адзін аддае перавагу верлібру, другі — вершаказам, трэці — традыцыйнай форме

**Карлас ШЭРМАН**

# РЫНАК ПАЧЫНАЕЦЦА З АДБОРУ

1. Талент амаль заўжды жыве на хвалях міжчасся. Ён не ведае іншага апірышча, акрамя трох кітоў — сляпой любові да літаратуры, уласнай духоўнасці і адчування жыцця, калі няўлоўны пругкі вецер кранае адно ягоны твар і ён усведамляе, што гэта сама зямля кудысьці рушыць. Талент, як я разумею, рэдкае спалучэнне шчасця і трагедыі. Ён таксама стыль, які безупынна— учора, сёння і заўтра, пад час узлётаў грамадства і калі яно ў бездані крызісаў — падточваецца шашалем інерцыі. Талент, калі хочаце, анамалія, бо ён разбярыць слова, і як толькі люд прымае яго з захапленнем, ён зноўку знаходзіць адно яму відочныя заганы і зноўку шукае. Дзень пры дні...

Літаратура без моцнага ўяўлення існаваць не можа, але яна тым і жыве, што шукае ісціну, таму талент адчувае, што яго пуцяводная зорка — праўда, на якую ён абапіраецца, да якой часамі набліжаецца. Васіль Быкаў — праўдар у мастацтве слова, і гэтым шмат сказана.

Бяда ў тым, што пакуль насоўваецца далёка не рынак, а жахлівая карыкатура на яго— крывое люстэрка нашай разбуранай дашчэнту культуры літаральна ва ўсіх галінах жыццядзейнасці.

Рабочы нібыта страціў здольнасць ганарыцца гожым і якасным вынікам працы, як бывае ад пачуцця ўласнай годнасці. Вольнага сялянства яшчэ няма, дый ці будзе яно пасля крымінальных падзей калектывізацыі і прымусовага калгаснага «шчасця». Гаспадарнікі лічаць, што рынак — гэта калі дзяруць сем скур, высмоктваючы звышпрыбыткі. Інтэлектуальныя вартасці дэфармаваныя, і нават больш за грашовую ці цэнавую сістэмы. Палітыкі забываюць, дзеля чаго ўвогуле ім дадзена займацца сапраўды найстаражытнейшым рамяством, і ўсё гэта мае кароткае, поўнае трывогі імя і крызіс. Крызіс грамадства, крызіс усіх вартасцей, антысвет злыбяды.

Як гэта здарылася, збольшага вядома, а вось на пытанне, як жа вылезці з чорнай яміны нашага лёсу, перадусім гучаць адказы палітызаваныя, насычаныя ідэалогіяй розных адценняў. Зноў набірае моц ідэя лібералізацыі цэнаў, але зусім не ясна, якім будзе механізм абмежавання прыбыткаў да цывілізаванага ўзроўню, бо менавіта звышпрыбыткі раскручваюць спіраль хуткаснага падзення.

Пісьменнікам трэба змагацца за адзіны і незалежны Літфонд без права ўмяшальніцтва ў палітыку, які б ствараў рэнтабельныя прадпрыемствы і накіроўваў прыбыткі на дапамогу кожнаму сябру Літфонду на пачатках роўнасці і адсутнасці прывілеяваных асоб.

Пад час бяды і бездухоўнасці, калі сорак працэнтаў люду ўжо на парозе жабрацтва, а дзяржаўныя структуры адварочваюцца ад творчай інтэлігенцыі, нібы ад восеньскай мухі, мала хто чытае мастацкае слова. Я ўжо не кажу пра балючы стан беларускай мовы, якую нелюдзі амаль што знішчылі. Да гэтага можна дадаць, што сапраўды вядомых пісьменнікаў на Беларусі мала, так і павінна быць, бо талент — выключнасць, няма такой краіны на свеце, дзе былі б сотні, а то і тысячы пісьменнікаў. Побач з імі працуюць літаратары, жывыя клеткі літаратурнага працэсу, з уліку якіх часамі вылучаюцца эпахальныя пісьменнікі. Наш скажоны дамарослы рынак пачынаецца з натуральнага адбору, прапаноўвае іспыты на выжывальнасць, ставіць тлустую кропку пад пустымі словамі аб сацыяльнай абароненасці інтэлігенцыі, дый не кожны вядомы пісьменнік вытрывае націск новых эканамічных адносін. Гэта як трымаць ласяня каля хаты, карміць амаль што з рукі, даць яму ласкавае імя, а потым — пасля пэўнага часу — адвесці ў гушчар і кінуць.

Сапраўднаму літаратару рынак не прадыктуе, што і як пісаць, чалавек піша адно як пішацца. Рынак толькі купец, які купляе, што хоча. Іншая справа — адчуванне жыцця і спрадвечная прага да заўжды патрэбнай праўды.

2. На мой погляд, беларуская масавая культура дэ факта створана, ужо крочыць па зямлі, мае перспектывы і сыграе сваю ролю ў жыцці, але ў грамадстве няма культурнай раўнавагі, гармоніі культурных плыняў, дэфармавана нават шкала каштоўнасцей у галіне культуры, асяродкі бескультур'я пануюць паўсюль і не лічаць сябе заганнымі, вакханалія крызісу раствapae тармазы маралі, апалагетыка поўнай кішэні, фізічнай моцы, сытасці і распусты, стан рэлігійных пачуццяў, якія часцяком падмяняюцца модай, паказнымі крыжыкамі без крыжа ў душы, паказным і прэстыжным шлюбам у храме, калі прыгажуня з нявіннымі вачыма, трымае свечку і ледзь не страчвае прытомнасць, бо цяжарная,—усё гэта падказвае, што масавая культура міжволі можа пагражаць сапраўднаму адраджэнню культуры.

Наконт лаўраў любой цаной толькі скажу: тае бяды, хай бавяцца на здароўе, але вядо-

і г. д. Я, напрыклад, доўга эксплуатаваў традыцыйную форму верша, але зараз яна бывае непрымальнай ад мноства прычын. А калі творчая задумка патрабуе пошуку новых форм, то, зразумела, я іх шукаю. Вялікая ўдача пісьменніка, калі выдатны змест гарманічна засведчаны адпаведнай формай.

Цяпер у нас многія проста «мочацца» вершамі. Ім усё адно што эксплуатаваць—змест, форму ці самога чытача... Прычым эксплуатуюць на нашай гісторыі і перабудове. У многіх з іх хацелася б запытацца: а дзе ж вы былі раней, чаму тады не падтрымалі адзінокіх шчырых галасоў Быкава, Караткевіча, Адамовіча? Ёсць сярод іх і маладыя. І, на вялікі жаль, трэба прызнаць, што такая «традыцыя» ў нашай літаратуры найбольш трывалая.

Сапраўднаму творцу дапамагае ўсё: і фармальны пошук, і чужыя знаходкі, і ўсякая іншая драбніца, з чаго і складаецца наша жыццё. Пісьменнік, які не арыентуецца і не зважае на тое, што ёсць, і не задумваецца над неабходнасцю таго, чаго яшчэ няма, проста займаецца літаратурнай пантамімай; ён піша нямымі жэстамі і мімікай, душа яго прамаўляе, але словы яго не чутныя. І дарэмныя высілкі выводзіць іх на паперы. Каб апісаць жыццё — дастаткова яго аднойчы пражыць, але каб таленавіта яго выявіць у літаратуры — трэба пражыць яго двойчы... Здаецца, напрыканцы я ўжо сам падсвядома некага паўтараю. Але эксплуатацыя добрых думак, спадзяюся, нікому не прынясе шкоды. І літаратарам у тым ліку. Хоць бы для таго, каб не пісаліся імі такія перлы ці падобныя на гэтыя:

**Перад вачыма агарод,**
**гнілая хата, кола, кошык**
**і душы...**
**Душы тут не з дошак,**
**але, здаецца мне,—з іх плот.**

Вось, так. Як кажуць, любіце, які ёсць. Вашы пытанні— мае адказы.

---

ма, што менавіта такія лаўры не адчыняюць брамы ў гісторыю літаратуры.

3. Свядомая эксплуатацыя моднай формы — гэта няшчырая ў адносінах да люду, малаарганічная справа, больш блізкая да масавай культуры, і ў значнай ступені закрывае пытанне аб адказнасці мастака нават перад сабою, ператварае мастацтва ў вытворчасць, а літаратара — у рамесніка.

Тым часам, без фармальнага пошуку, без асэнсавання магчымасцей слова ў розных эстэтычных сістэмах няма і пісьменніка, страчваецца крэўная сувязь нацыянальных літаратурных утварэнняў з адзінай сусветнай літаратурай. Безумоўна, я не магу пагадзіцца з тым, што фармальныя знаходкі літаратурнага характару бываюць чужымі. Засвоенае — не чужое, асэнсаванае ўваходзіць у нашую сутнасць. Прыгадайма, санет не ўзнік на Беларусі, раманс таксама, але ж хто выкрасліць іх з нашае літаратуры?

Фармальны пошук набывае якасці антыінерцыйнага сродку, выконвае высакародную функцыю пашырэння далягляду творчасці. Як і мастацкі пераклад.

Аднак без пачуцця мастакоўскай меры нараджаецца мо і фармальна дасканалае, але ўсё ж штучнае, адарванае ад каранёў, не прынятае імі, і гэта вызначае толькі час, бо нязвыклае адразу здаецца штучным. Так што не спяшайцеся выкрываць шукальнікаў формы! Хай ім Бог спрыяе!

---

**ВІНШУЕМ!**

**18 лістапада спаўняецца 60 гадоў вядомаму беларускаму пісьменніку, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР, народнаму дэпутату Рэспублікі Беларусь Анатолю Вярцінскаму. Лімаўцы сардэчна віншуюць Анатоля Ільіча, — таксама лімаўца, свайго нядаўняга галоўнага рэдактара, з паважным юбілеем, ад усяе душы зычаць яму здароўя, творчага плёну, поспехаў у грамадскай дзейнасці на карысць Бацькаўшчыны.**

# СВЕТЛА, СМЕЛА, МАГУТНА

Ці то час такі, ці то мы гэткія, але за апошняе дзесяцігоддзе, відаць, не толькі ў мяне, але і ў большасці прадстаўнікоў майго, ды не толькі майго, пакалення з лішкам набралася прычын, каб адчуваць сябе вінаватымі. Бо сапраўды, ці ж я сам так ужо не без граху, калі ў такім доўгім апошнім часе ніводнай кніжкі сяброў сваіх па пяру не адрэцэнзаваў, тым больш ніводнага артыкула пра іх не напісаў, тым больш ніводнага паэтычнага дэбюта маладых не прывітаў. Разумею, што з'ява шырэй, бо яна — не толькі чыста літаратурнага гатунку. Бо ў цэлым жывём жа мы ў грамадстве вінаватых, і хто з «Тутэйшых» ці маладзейшы ад іх, той як бы па адзін край рубяжа, хто ж старэйшы за «Тутэйшых» — на заднім — «вінаватым». Галасы пры гэтым палавіняцца, а то і трояцца, чацвяраццa: хто кажа «усе вінаватыя!», хто — «без віны вінаватыя», хто віняць адных, іншым даюць алібі, а хто толькі сабе шукае апраўдання ці, больш таго, самых чыстых папераў, не бачачы ў сваім воку бервяна, а ў суседскім дробную макулінку пад венік падбіраючы. Такім чынам, час сапраўды даўно прабіў шчыра нам і вінавацiцца, і так вінавацiцца, каб не спрашчаць нічога, а бачыць усю складанасць нашага разрахунку з былым, усю складанасць самога былога, якое ёсць рэальнай гісторыяй нашай вялікай літаратуры як песні, слова з якое не выкінеш.

**Выпрабаванне былым, яно — асноўнае ў літаратуры, бо гэта ж выпрабаванне часам, выпрабаванне на трываласць, вечнасць. Страшнае яно, ды не кожнаму: кан'юнктуршчыку — так, аліл уйшчыку —так, перапявайлу — так, але ўсё ж, дзякуй Богу, хоць і хапала ў нас у мінулым часовага і шэрага, ды секлі хвалі часу — фарватарна, магістральна — і шмат чаго магутнага і светлага, што ўвайшло і застанецца ў сённяшнім дні, што ўвойдзе і ў дзень наступны. Бо з тым было «неба высокага ідэалу», раўненне на ідэал увогуле, без якога няма ўвогуле мастацтва. І было яшчэ з усім тым і пачуццё віны, — было! было! — задоўга да нашага часу было і пачуццё віны, і пачуццё сораму пры спробе сказаць як найпаўнейшую праўду аб жыцці, пры поўным адыходзе ад імітацыі грамадзянскасці, пры глыбокай сацыяльнасці — гэтай сапраўднай кароны грамадзянскасці ў паэзіі. І было ўсё гэта задоўга да нашага часу найперш у аднаго з нашых самых слынных паэтаў-шасцідзесятнікаў, аўтара паэмы «Даруйце!», матывы віны якое — праз гады — менавіта з пабіянацтва прымусілі мяне пачаць і сваё слова аб гэтым Паэце...**

Анатоль Вярцінскі — адзін з несумненных лідэраў беларускай паэзіі другой паловы XX стагоддзя. Наколькі ў цэлым багатая наша паэзія гэтага часу, мы часта не бачым, ці што. Відаць, таму, што маем, што багатыя, ну, а калі маеш, то што пра гэта гаварыць?! Вось і маўчым, прамоўчваем, замоўчваем, ды і не гаварымо пра аднаго, каб не пакрыўдзіць пятага ці дзесятага. Выдатны, шырокі і глыбокі паэт, а ці ж па-сапраўднаму станавіўся калі А. Вярцінскі надоўга ў цэнтры нашай увагі? Хіба толькі як аўтар зборніка «Тры цішыні» (1966), а пасля як аўтар розных крымінalaў, абвінавачванні ў каторых каверкалі наступныя зборнікі паэта, — прынамсі, «Чалавечы знак» (1968). І гэта ў той час, калі А. Вярцінскі пасля сваёй ранняй «Песні пра хлеб» (1960) стаў сапраўды адным з нашых вектарных паэтаў, які сваімі набыткамі абазначаў адзін з самых перспектыўных кірункаў нацыянальнай паэзіі.

У свой час пра лірыку Аляксея Пысіна гаварылася, як пра лірычную эпапею, раўналеглую ў нашай літаратуры ваеннай прозе Васіля Быкава. І сапраўды — гэтую раўналегласць час прадаўжае ўсё больш падсвечваць. Але не толькі яе, бо куды шырэйшыя прасторы займае раўналегласць з прозай таго ж В. Быкава яшчэ і паэзія А. Вярцінскага — яго лірыкі, яго эпасу. Чаму? Ды таму, што якраз у паэзіі А. Вярцінскага найбольш, чым у іншых, аказалася параметраў зарыентаванасці на тыя ж ідэалы, што прадвызначалі мастакоўскі лёс В. Быкава.

Як і народны пісьменнік, паэт А. Вярцінскі з самага пачатку ўзяў курс на паказ самай суровай праўды жыцця, на трагізм і драматызм народнага лёсу — пры маральным максімалізме, пры духоўным супрацьборстве з сіламі цемры.

Паэзія А. Вярцінскага — гэта асобны мацярык нацыянальнай паэзіі, асобная яе школа, асобны стыль, асобная сістэма універсалізацыі паэзіі, інтэграцыі нацыянальнага ў агульначалавечае. Здабыткі паэзіі А. Вярцінскага — непаўторныя, урокі яе — маштабныя, і чым хутчэй яны ўсвядомяцца творцамі нацыянальнай паэзіі, тым больш паспрыяюць яе далейшаму развіццю. Разам з тым нялішнім будзе падкрэсліць, што як і пафасна - прадвызначальная для паэта А. Вярцінскага ідэя віны, сацыяльнай справядлівасці, адказнасці, маральнага максімалізму, так і ягоная універсалізацыя паэзіі як такой — гэта рэчы, роўна часавыя, роўна наканаваныя нам як эпахальныя, як этапныя. Першая — горычу віны, спароджанай бальшавізмам, які ставіў на парогі вінаватасці краіну, грамадства, — рэч, як бачым, з сацыяльна-гістарычнага выток у, цяжкага, пакутнага. Рэч другая — з вытоку іншага — са светлага, адраджэнскага, культурна-гістарычнага складу. Яго, гэтага другога вытоку, мы, можа, сёння так выразна і не адчулі б, калі б так нядаўна не ўбачылі буйным планам нашага Францішка Скарыну з ягонымі тэндэнцыямі да універсалізацыі, з ягонай сістэмай універсалізацыі духоўных каштоўнасцяў са скарбніцы гуманістычных ідэй і з універсалізацыі эстэтыкі, прыгожага ў слове паводле традыцый Арыстоцеля і Тамаша Аквінскага. І мне тут тройчы прыемна адзначыць, што тое, што намі сёння толькі першапачаткова ўсведамляецца, тое ў зыходных пазіцыі сваёй паэзіі А. Вярцінскі ўзяў ледзь не з самага пачатку ўласнай творчасці — узяў сілай, дадзенай толькі паэту глыбокаму, паэту-празарліўцу, паэту, у руках якога — будучае.

**Як ні дзіўна, але тое, пра што я зараз скажу, з гэтым я ўвогуле сёння звяртаюся да студэнтаў-філолагаў, імкнучыся даць ім універсальную формулу жыццёвага канона філолага, літаратара. Так, менавіта сёння прашу студэнтаў-філолагаў падхапіць лозунг трох «і» — інтэлектуалізацыі, інтэлігентызацыі, інтэграцыі. Але ж ці з самага пачатку не з гэтай жа трыяды «і» сыходзіў А. Вярцінскі, становячыся ў 60-я гады адным з першых беларускіх паэтаў-інтэлектуалістаў? Ці ж не яго лірыка менавіта цераз сваю інтэлектуальнасць станавілася высока і шырока інтэлігентнай, а цераз далучэнне да вобразаў грэчаскай і рымскай Антычнасці, Сярэднявякоўя, Адраджэння менавіта інтэграванай у кантэкст агульнаеўрапейскі, агульначалавечы? Жыццё і паэзія — заўжды неразлучныя, заўжды ў пары. Законы ж паэзіі — законы жыцця, калі яно высокае, пры «небе ідэала». І тут я магу згадзіцца, што і паэзія — падручнік жыцця, бо ў гэтым паэзія А. Вярцінскага пераконвае.**

І яшчэ адну паралель хацелася б правесці з параўнання А. Вярцінскага і В. Быкава,— тым больш, што гэтай паралелі, здаецца, яшчэ ніхто не заўважаў. Проза Быкава — сацыяльна-псіхалагічная, і ў тым няма дзіва: псіхалагізм аб'ектывізаванай прозы, зарыентаванай на ідэі сацыяльнай справядлівасці і мастацкай праўды, ён у традыцыйна-беларускай прозе такі. І вось думаецца, што ёсць падставы для параўнання псіхалагізму празаіка і паэта, ёсць падставы ўвогуле гаварыць аб псіхалагізме лірыкі, аб'ектывізацыі ў лірычным вершы псіхалагізму, якога сацыяльным не назавеш, але што гэта таксама варыянт псіхалагізму, відавочна. Відавочна, што для нацыянальнай паэзіі гэта стала з'явай наватарскай, хоць наймення пакуль што не мае. Ды перачытайце вы такія вершы А. Вярцінскага, як «Эдзіт Піяф хоча любві», «Бяссрэбранікі», «Два полі», «Дынамік», «...Цётка плакала па ўсім свеце...», дык сапраўды, ці ж гэта не Быкаў у лірыцы? А фенаменальнасць вершаў «З'яўленне», «Мужчына. Жанчына. Чаканне...», «Вясновы закон»? Як вызначыць іх псіхалагізм, як сапраўды назваць яго з гэтымі маштабамі і незвычайнасцю абагульнення, калі, як у вершы «З'яўленне», адначасова і пра нараджэнне кожнага з нас, і «зор і сонца ўвышыні», і «сокаў з глыбіні карэння», і «траў у веснавыя дні» і ўвогуле чагосьці «ва ўсёй красе» — маці, каханай, паэзіі, жыцця ўвогуле — гаворыць паэт, бачачы свет у нечаканасці, выпадковасці, заканамернасці і ў блаславёнасці — жыцця жыццём, чалавека сусветам. А што за цуд — верш «Вясновы закон»! «Закон адвечны і мудры», — сцвярджае паэт. Адвечнае і мудрае ў ім ён і фармулюе, разумеючы чалавека і прыроду, псіхалогію як чалавека, так і той нібы жывой і роўна мудрай прыроды, што чалавечным, суцішае яго хваляванні, супакойвае, думкі навявае. Пабольш бы такога п с і х а л а г і з м у быцця нашай паэзіі!

**І яшчэ асобна хочацца сказаць проста аб прыгажосці, элегантнасці многіх вершаў А. Вярцінскага. Пералік тут быў бы вельмі доўгі, але ўсё ж пачнём яго вершамі «З польскіх уражанняў», «...Гора—не бяда, бяда — не гора...», «Тры цішыні», «Рэквіем па кожным чацвёртым», «Статак вяртаецца з поля», «Мама мыла раму...», «Высокае неба ідэала», «...Тут адна спагада...». Няхай кожны з паклоннікаў паэзіі А. Вярцінскага прадоўжыць гэты спіс сам для сябе, а тут прыканцы мне хочацца падкрэсліць, што кожны з вылучаных мной вершаў у сваёй красе адзін да другога непадобны, што ўсе гэтыя вершы ўласна хрэстаматыйныя і сапраўды прадстаўнічыя на форуме любой публічнасці...**

Можа, я завельмі пра А. Вярцінскага як пра паэта і толькі пра паэта, бо ён жа і з шэрагу нашых лепшых публіцыстаў, а чым стала «Літаратура і мастацтва» ў бытнасць яго рэдактарам гэтай газеты, усім нам на памяці. Напаўбіку ва ўсіх таксама сённяшняя дзейнасць у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь народнага дэпутата А. Вярцінскага, як і дыпламата Вярцінскага, што пабываў на Генеральнай Асамблеі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку, што сёння ўзначальвае дэлегацыю Рэспублікі Беларусь у Парыжы на абрадах ЮНЕСКА. І ўсё ж — пра Вярцінскага-паэта, перш за ўсё пра паэта, хоць бы таму, што ўся грамадска-палітычная і грамадска-літаратурная дзейнасць А. Вярцінскага апошняга часу як бы захіліла сабою яго як паэта, як бы адаліла яго, хоць на самай справе аддалення —аніякага! Анатоль Вярцінскі-паэт — у цэнтры, быў, застаецца: у цэнтры здабыткаў і клопатаў усёй нашай сучаснай паэзіі, у цэнтры ўсяго літаратурна-грамадскага руху, якім ён у нас сёння ёсць, развіваецца.

**Алег ЛОЙКА.**

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**



## Не заўважай маёй тугі...

*Бежим, бежим, посмертный друг,*
*От красных и от черных вьюг!*

Сяргей ЯСЕНІН.

Не заўважай маёй тугі ў вачах
І не пытай, адкуль яна ўзялася.
Даўно агеньчык той любві ачах,
Што ў сэрца мне спадманам упілася.

Не гавары мне, дружа, гучных слоў,
Калі пра шчасце гутарыш са мною.
Балюча ад таго, што шмат гадоў
Нам вочы затуманьвалі маною.

Крыж нематы прыносіць гора ўсім,
Хто перад ім укленчвае бязмоўна.
Нам ад тугі не збавіцца зусім,
Пакуль бытуе сказ: «А мне ўсё роўна...»

Заўжды даўжэюць цені на палях,
Калі заходзіць сонца за лясамі.
А мы стаім, паглядваем на шлях,
Не заўважаем скрыжаванняў самі.

Не перадаць уражанняў тых дзён.
Як плыў над намі смерч перавароту.
Я быў гатоў павесці праз заслон
Супроць яго маю былую роту.

Каб зліцца там са строем маладым,
Што пад агнём узводзіў барыкады.
У тыя дні ўсім — мёртвым і жывым —
Нам неслі крах забойцы з самаўлады.

Адзін пыхцеў — як тлусты той вяпрук,
Другі—сліман, а трэці—прышчык гнойны:
Каб па-кручкоўску ўсіх скруціць у крук,
Пускалі танкі на народ бяззбройны.

Мне гаварыла сэрца: «Усё — мана.
Не вер ні слову гэтых самазванцаў!
Была такая хунта не адна,—
Ды не магла ніводная ўтрымацца!»

Шкада, што ў час не давялося мне
Быць каля Белага на Прэсні Дому.
Лічыце ж, што стаяў, як на вайне,
За свой народ салдатам невядомым.

23 — 27 жніўня 1991 г.

## Адлюстраванне

З цемры ночы ўспыхвае світанне
І рака святлее спакваля.
Бачаць там сваё адлюстраванне
Лес і поле, неба і зямля.

У раку заглядваюцца дрэвы,
Хаты, што стаяць на берагах,
З берагу я правага на левы
Тут калісьці пракладаў свой шлях.

Тольні што пакажа плёс вільготны?
Тут жа ўсё глядзіцца зверху ўніз:
Выглядае бокам адваротным
І плакат, што кліча ў камунізм...

Не туды павернуты галовы,
Дагары нагамі дрэвы, пні.
А які дзень — светлы ці суровы —
Сёння ўбачу ў плыннай быстрыні?

Зноў вайну? О не! Адлюстравана
У слязах яна дзяцей і ўдоў.

*Павел Місько*



# Вайна вінаватая...

У 1990 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла 1-я кніга майго рамана «Хлопцы, чые вы будзеце...» Тым часам была здадзена ў выдавецтва і часопіс «Полымя» ІІ-я кніга рамана...

Кастрычнік 1944 года. Яшчэ грыміць на захадзе вайна. У вёсцы Стары Пасадзец на Палессі арганізоўваецца дзіцячы дом для сірот вайны. Дома, па сутнасці, яшчэ няма, а дзяцей ужо прывезлі. Людзі паразбіралі меншых па хатах, узялі часова гадаванцамі. Групка большых на чале з Януком Каржанеўскім пасялілася ў парку ў панскім флігелі, які памаглі адрамантаваць салдаты.

АЎТАР.

АЛЕНА Аляксандраўна падыходзіла да парку.

Як ішлі вуліцаю і поплавам каля рэчкі, як масцік міналі, яна ад шчырасці душы, ад добрага сэрца то хацела ўзяць Казіка за руку, як малога, то палажыць сваю яму на плячо, то абняць за худзенькія плечы. І кожны раз Казік то хаваў свае рукі ў кішэні, то пацепваў плечуком, каб скінуць яе руку, то адступаў убок, то знарок адставаў, і Алена Аляксандраўна прыстойвала, каб хлапчук апынаўся побач, каб можна было на роўных весці гаворку. Углядвалася збоку ў яго завостраны твар з ваўкаю ў куточку рота, знябожаны і зацяты, і шчыра шкадавала яго.

Не паддаваўся Казік на размовы: «ага», «угу», «не», «не ведаю», «ай» — амаль усё, што ад яго ўдалося пачуць. Пра бацькоў Алена нічога не пыталася. Табу! Забароненая тэма! Жыццёвы вопыт так падказваў, а не педагагічны. Хоць, праўда, і Анюта збірала ўсіх супрацоўнікаў дзіцячага дома ў школе, запрашала настаўнікаў. Дамовіліся катэгарычна: ніякіх роспытаў пра мінулае дзяцей не рабіць, хоць знарок, хоць знячэўку. Ва ўсіх, без выключэння. Калі захоча каторы ці каторая што само расказаць — няхай, добра. Але зноў-такі — слухаць і не фарсіраваць расказ запытаннямі. Калі адагрэюцца іх душы, разледзяніцца, памякчэе ў іх сэрца, тады мо стануць больш разгаворлівыя. Тое, што ўведаецца, не распаўсюджваць — як тайну споведзі. І вось цяпер Алена Аляксандраўна старалася задаваць яму нейтральныя пытанні — што любіць, а што не, што ўмее ўжо рабіць і чаму хоча навучыцца, ці ўмее чытаць, пісаць, рашаць задачкі, кім хацеў бы стаць, як вырасце вялікі, ці клапоціцца пра свайго браціка. І амаль фізічна чула, што ў Казіка кожная клетачка як у цісках, кожны нерв, кожная жылачка напятыя — як не пэнкаюць. Ад такой рэакцыі хлапчука ажно гублялася: ну з якога боку яшчэ падысці, падступіцца? Звычайна ласка і сардэчнасць бралі сваё, заградскія дзеці ажно ліплі да яе. А тут — асечка...

А ўзяла з сабою Казіка ў парк, каб звесці яго з Васем Мечаным і Мікам-Мікодымам. Яны ж амаль аднагодкі, авось праявяць прыхільнасць адзін да аднаго, авось пасябруюць. Яна ўжо наслухалася ад Ганны Сымонаўны пра Янука Каржанеўскага і сама адзначыла сабе, пабачыўшы, які ён самастойны і амаль дарослы, якая згуртаваная іх тройка. Цяпер, праўда, ужо чацвёрка, вось толькі ці ўжывецца Мечаны з імі... А добра было б, каб гурт большаў і большаў — пяць, шэсць, дзесяць... Каб усе бальшуны кампаніліся каля Янука, каб узялі яны пад апеку самых малых — як сваіх братоў і сясцёр. «А Каржанеўскі, відаць па ўсім, змог бы гэта зрабіць. Ёсць характар, і сіла волі ёсць, аўтарытэт. І галава на плячах... Як людзі важакамі робяцца? Гэта прыроджанае ў чалавеку ці нажыўное, жыццё змушае стаць такім? Нехта ж казаў, адзін нараджаецца з сядлом на спіне, а другі — коннікам. Праўда гэта ці байка?».

Падышоўшы з Казікам да двара флігеля, убачыла такое відовішча. Непадалёк ад будынка, у былым агародзе магутна дыміў раскладзены агонь. Ядзя жала бур'ян сярпом, Янук з-за пляча джыгаў, дзёўб касою. Але здраўнелыя і тоўстыя, па пальцу, сцяблы лебяды, яшчэ таўшчэйшы лопух не вельмі паддаваліся касе. Ядзя, мабыць, паспела зажменіць, натрудзіць левую руку, бо ўсё падымала і матляла кісцю, а Янук раз-пораз падымаў касу і глядзеў на жала — ці не пазаварочвалася? Лепш за ўсё дзейнічаў Грыша Волах — нажом, і занятая ім палоса «іржышча» была даўжэйшая, чым у іх. Усё ссечанае, зжатае, зрэзанае Валя, Міка і Вася Мечаны зносілі на агонь, у вялізную кучу, якая і вывяргала такі страшэнны дым. Урэшце Вася прысеў каля дымлівага вулкана і пачаў заўзята махаць кавалкам дыхты[1], падсоўваць сушэйшых палак і трэсак, абломкаў старых бярвенняў. Языкі полымя не хацелі выбівацца наверх, і Янук пакрычаў хлопцам і Валі:

— Перастаньце зелле валіць! Хай паваляецца, падсохне.

Тое самае «качагару» сказала, мабыць, і Хрысціна Пятроўна, якая выглянула з сянец флігеля, голасу яе Алена Аляксандраўна і Казік не пачулі.

Вася і Міка знайшлі другую забаўку. Яны расшпільвалі, адзін свой доўгі падраны пінжак, другі — фрэнчык ці кіцель, перашыты з нямецкага салдацкага, распасціралі, як крылы, і кідаліся ў самую гушчэчу жоўта-зялёнага дыму, выбягалі з другога боку, склаўшы ўжо «крылы», толькі не зашпіліўшыся, і з-пад адзення таксама валіў дым, струменіў, здавалася, нават з вушэй, з валасоў, з носа. Кожнае іх з'яўленне («Чэрці з пекла!») Валя сустракала віскам і прарэзлівым крыкам, падбягала да аднаго, да другога, ляпала па плячах, па спіне, па жываце, выбіваючы кожны раз клубкі дыму. А Вася і Міка кашлялі, слязліва моршчыліся і выкручваліся ад Валі. Яны паспявалі кінуць адзін аднаму нейкія загадкавыя словы: «Капутнуць, быць не можа!» — «Павінны абсыпацца!» — «Давай яшчэ па разу!», і зноў кідаліся, распрасцёршы «крылы», у дымавую заслону.

— Мама! — крычала Валя. — Вася і Міка падвэндзіліся, як кумпякі! Давайце іх на вышках на жэрдачку падвесім!

Вось ужо хлопцы паскідалі з сябе апранаху, паадварочвалі твары ўбок і яшчэ патрымалі яе ў дыме, патрэслі.

З сянец зноў выглянула Хрысціна Пятроўна і паманіла да сябе пальцам Васю Мечанага: «Хадзі, стулянку дам!». Алена Аляксандраўна з Казікам завярнулі да вогнішча, а насустрач ім, міма, прабег, размахваючы над галавою пінжаком, Вася Мечаны, знік у сенцах. Пасталі каля кастра, глядзелі, як Міка паволі адзяваў фрэнчык-кіцель, зашпільваўся на кожны гузік да самай шыі, а Валя зноў хлопалаляпала яго па спіне, пасмейвалася: «Ой, фрыцык, ты гарыш? Ой, зусім згарыш! Ой, а пах які ад цябе — фу-у!».

І вось Мечаны выйшаў з сянец флігеля — спаважна, не пазнаць проста. Калі Міка сапраўды змахваў на малога салдаціка-фрыца, то Вася стаў маленькім чырвонаармейцам. Замест старое фуражкі з паломаным казырком была на галаве пілотка з чырвонай зоркай, замест падраных пінжака і штаноў вельмі прыстойныя і падобныя на салдацкія гімнасцёрка і штаны. Толькі вось на нагах... Вася быў у вялікіх балетках з тых, што купіў Мікульскі ў Пінску. Хоць і перашывалі гімнасцёрку і галіфэ, абмундзіроўка целяпалася на ім, балеткі шлэпалі. Але сустрэлі яго з захапленнем: «Го-о! Ур-ра! Ух ты! Навабранчык!» Пакідалі работу, збегліся да агню, да шчаслівага Васі Янук, Грыша, Ядзя. Паздароўкаліся з Аленаю Аляксандраўнай і — закруцілі, затузалі Васю, заляпалі па плечуках. Дасюль у чырвонаармейскай пілотцы быў толькі Янук, а цяпер ужо двое.

— І я хачу нашу пілотку! — раптам ірвануў у сенцы Мікодым, а там — у левую палавіну флігеля, якая была за кладоўку.

І вось неўзабаве выйшаў адтуль немец-салдацік, але... у чырвонаармейскай пілотцы! Сваю ж, фрыцаўскую шапку палажыў у дым, на касцёр.

— Ты-ы-ы... разбагацеў вельмі! — ступіў да вогнішча Каржанеўскі, выхапіў шапку. — Сам не хочаш, то другі хто зносіць.

Панёс шапку ў сенцы і... павярнуў таксама ў кладоўку. Вынес балеткі і пілотку, пілотку аддаў Грышу Волаху, а сам сеў абуваць балеткі. Здаецца, і самыя большыя выбраў, а пальцы ўпіраюцца.

«Ужо шчаслівыя, ужо твары свецяцца...» — усміхалася, гледзячы на іх, Алена Аляксандраўна.

— Ну што? — напусціў на сябе сур'ёзнасць Каржанеўскі. — Ро-ота-та!.. Не, адставіць. Аддзяленне, слухай маю каманду... Станавісь! — і паказаў рукою ўправа ад сябе.

Каля яго тут жа пасталі Грыша Волах, Міка і Вася Мечаны.

— Смі-ір-рна! Раўненне на сярэдзіну! — зноў скамандаваў Янук і, цвёрда ставячы нагу, зрабіў некалькі крокаў да Драбышэўскай, узяў пад казырок: — Таварыш генерал! Дывізія для парада пастроена!

Алена Аляксандраўна са смехам казырнула і махнула рукою:

— Вольна, таварышы гвардзейцы... Дык колькі ж вас тут — дывізія, рота ці аддзяленне?

— Пакуль што аддзяленне, — усур'ёз адказаў, а потым усміхнуўся і Каржанеўскі.

— І аддзялення поўнага няма... Але будзе! Толькі трэба заслужыць званне гвардзейцаў... Во, прыміце папаўненне... Казік, Казімір яго завуць. Думаю, што і яму знойдзецца пілотка. Валя, заўтра раніцаю павядзеш з сабою ў школу Мікодыма, Васю і Казіка. Я да вас сюды ўжо не буду заходзіць.

Казікава прозвішча яна не назвала. Не дачакалася, аднак, ні запрашэння, ні здабрэння, тым больш ніхто не працягнуў яму руку. Строй проста рассыпаўся. Янук, Грыша і Ядзя зноў пайшлі церабіць агародныя джунглі. Мабыць, Хрысціна Пятроўна рашыла перааараць гэты ўчастак на зіму, пакуль не было марозу. Вася Мечаны прысеў са сваёй фанерай каля вогнішча, зноў замахаў, задзьмухаў. Каля яго разгублена прысела і Валя. Застаўся стаяць насупраць Алены Аляксандраўны толькі Міка-Мікодым, паглядаў, супячы бровы, то на Казіка, то на ле. І раптам паказаў на яго пальцам.

— Гэта яму — пілотку? Яму-у?! І вы думаеце, што ён варты насіць яе?

— А чаму не, Мікодым, хлопчык мой дарагі? — Алена Аляксандраўна цеплынёй голасу, дружалюбнасцю хацела змякчыць сітуацыю.

— І вы не ведаеце чаму? Вы не ве-дае-е-це ча-му?! — закрычаў ледзь не з істэрыкай. — Не ведаеце, хто ён, чый сын?!

— Мікодым!!! — рэзка, спалохана ўскрыкнула Алена Аляксандраўна.

Казік і да гэтага стаяў збялелы, а цяпер зрабіўся ажно блакітны. Пачаў гаварыць шэптам, а пад канец сарваўся на крык:

— А ты хто? Хто ты такі? Думаеш, як надзеў чырвонаармейскую пілотку, дык і ўсё? Фрыц ты! Фры-ыц! Фры-ы-ыц!!!

Чуў жа не раз такую сваю мянушку Міка, зусім нядаўначка і Валя так казала на яго. А тут Бог ведае што з ім зрабілася.

— Я-я — фры-ыц?! Шкура паліцэйская, ды я цябе за гэта... за гэта... — Міка-Мікодым падгінаў ногі, азіраўся, вытарашчваючы вочы, каб што схапіць у руку. І Алена Аляксандраўна рашуча заступіла сабою Казіка:

— Ты што? Хлопцы, ды вы што? Перастаньце, як вам не брыдка!

— Я цябе, шкура... на рэшата!.. — Мікодым кінуўся за дашчаны хляўчук, да канюшні.

Адзін мо Янук зразумеў яго намер, бо кінуў касу і прыпусціўся ўслед: «Міка, стой! Міка, назад!» Пабег за ім трушком і Грыша.

Ядзя ўжо не жала, а вырывала з зямлі булавешкі-бадылі, з двума такімі пайшла да Алены Аляксандраўны. Выглянула з сянец на крык і Хрысціна Пятроўна, потым выйшла. Перастаў махаць фанерынаю на агонь і Вася Мечаны. Усе ў непаразуменні глядзелі ў той бок, куды зніклі хлопцы.

І раптам Васеў крык:

— Пагляньце... Ха-ха, заяц! Папёр, як

[1]) Дыхта — фанера (палеск.)

# І ДАДАЛОСЯ ІМЯ Ў «МАРТЫРАЛОГ»...

## Лісты Ларысы Пампееўны Александроўскай

Здрадзіла прафесійная звычка: я не змагла напісаць пра гэта хутка. Чужыя ўспаміны прымусілі задумацца пра сваё, паўспамінаць гісторыю і нашай сям'і, лёс продкаў і родзічаў.

А Мікалай Мікалаевіч чакае...

Зрэшты, аддзел музыкі «ЛіМа» ён шукаў не дзеля таго, каб распавесці пра ўласны лёс. Ён прынёс і прапанаваў апублікаваць пісьмы добрага свайго друга, выдатнай беларускай артысткі, дзеяча музычнай сцэны Л. П. Александроўскай. Адразу ж аддаў копіі, а вось арыгінальныя лісты, паштоўкі паказаў у якасці дакументальнага пацвярджэння. Почырк Ларысы Пампееўны я пазнала, але зацікавіў мяне тады не змест пісьмаў, а іхні адрасат.

Нечаканы наведнік аказаўся 73-гадовым латышскім пісьменнікам і музыказнаўцам Мікалаем Мікалаевічам Крэерам. Падаўся ён бадзёрым, жыццярадасным, дасціпным і добра-сардэчным. Пра перажытае гаварыў з горкім уздыхам, але без злосці: не ўласціва арыстакратам духу азлобленасць ды помслівасць. А каб развеяць недавер да яго, да нечаканага і невядомага суразмоўніка, Мікалай Мікалаевіч паказаў некалькі дарагіх для яго дакументаў — памятку цэлай эпохі...

Бацька Крэера — Мікалай Карлавіч, з дваран, былы афіцэр царскай арміі, сумленна служыў новай уладзе. У даваенным Мінску ён, прынамсі, быў намеснікам начальніка вайсковага вучылішча (Аб'ядная беларуская вайсковая школа), цяперашняе Суворaўскае,— па навучальна-страявой падрыхтоўцы. Мікалай Мікалаевіч вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі як вакаліст — разам з Л. Александроўскай, В. Барысенкай, І. Масленікавай. Скончыў рабфак БДУ (па бацькавым патрабаванні). Паступіў у Ваенна-марское вучылішча імя Фрунзе...

Бацьку арыштавалі ў 37-м (незадоўга да арышту ён быў ужо начальнікам гарнізона). Оперупаўнаважаны вучылішча Вальфсон гатаваў паклёпніцкія справы на многіх камандзіраў ды выкладчыкаў, вёў вобыскі, удзельнічаў у допытах, катаваннях арыштаваных. Мікалай Карлавіч Крэер як «агент польскай ды латвійскай разведкі» абвінавачваўся ў ваенна-фашысцкай змове, падрыхтоўцы да звяржэння савецкай улады і рэстаўрацыі капіталізму ў СССР. Толькі ў 1991 г. атрымаў сын праўдзівы адказ з ЦА КДБ СССР на запыты пра лёс бацькі. Толькі цяпер змог сам пачытаць страшныя паперы — пратаколы «асабліва пільных дазнаванняў», бацькавы неверагодныя «прызнанні». І апошнюю даведку пад грыфам «сакрэтна»— пра тое, што прыгавор аб расстрэле Крэера М. К. прыведзены да выканання ў Мінску 30.06.1938 г. А тады, у крывавых 30-х, сям'і амаль кожнага асуджанага «ворага народа» выдавалі стандартны адказ: «10 гадоў без права перапіскі». Нават ужо ў сярэдзіне 50-х даслалі хлуслівае сведчанне пра смерць М. К. Крэера ў 1940 годзе ад хваробы ў ссылцы.

Жыццё маладога Крэера складвалася драматычна. Праз 3 гады пасля арышту бацькі ім таксама заняліся органы. Прайшоў допыты. Атрымаў 5 гадоў турмы, 5 гадоў лагераў, 5 гадоў без права перапіскі. Лагерныя ўмовы былі асабліва невыносныя (хоць там, у «Ивдельлаге», яму ўдалося стварыць тэатр за калючым дротам). Невядома, ці доўга пратрываў бы. Але давялося вырвацца на фронт: у 43-м Мікалай Мікалаевіч паслаў прашэнне Калініну. У пісьме нагадаў, што калі вучылішчу імя ЦВК БССР прысвойвалі імя Калініна і «ўсесаюзны староста» прыязджаў з тае нагоды ў Мінск, быў зроблены на памяць здымак, дзе маленькі сын Мікалая Карлавіча Крэера сядзеў на каленях у Міхаіла Іванавіча.

Просьба была задаволена, лагер замянілі штрафбатам. У ліку 150 «штрафнікоў» Крэера кінулі на вызваленне Віцебска... Жывых пасля бою засталося 18. Мікалай Мікалаевіч апынуўся ў віленскім шпіталі, з якога выпісаўся ўжо як інвалід Вялікай Айчыннай вайны.

Пра лёс маці Вікторыі Іванаўны (Янаўны), як і пра лёс братоў, доўга нічога не ведаў. А яна заставалася ў Мінску, чакаючы вестак пра мужа. Калі горад акупіравалі немцы, Вікторыя Іванаўна вырашыла вярнуцца на сваю радзіму у Латвію. Акупацыйныя ўлады дазволілі гэта латышскай жанчыне, чые муж і сын пацярпелі ад рэпрэсій сталінскага рэжыму. У Рызе і знайшоў яе пасля вайны, дзякуючы выпадку, сын. Сам нейкі час папрацаваў у Латвійскім тэатры музкамедыі. Атрымаў кансерваторскую адукацыю. Потым — мастацкае кіраўніцтва ды работа лектара-музыказнаўцы ў філармоніях Днепрапятроўска, Ульянаўска, Кіславодска, Пензы.

І ўвесь гэты час з яго не было знята судовае абвінавачанне! Рэабілітавалі Мікалая Мікалаевіча толькі ў 1963 годзе.

Каля 30 гадоў таму ён прыязджаў у Мінск, ладзіў лекцыі-канцэрты, музычныя гутаркі на БТ з удзелам беларускіх выканаўцаў: жыновічаўскага аркестра, піяністкі Е. Эфрон, скрыпачоў А. Валошына, М. Гальдштэйна, сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам В. Дуброўскага, вакалістаў філармоніі. Вёў і канцэрты на Гродзеншчыне. Гэта ўжо гісторыя. Гісторыя — і ягонае сяброўства з незабыўнай Л. П. Александроўскай, з выдатным басам Б. Р. Гмырам, пра якога напісаў манаграфію. Гісторыя — і ўдзел у канцэртах дырыжора В. Катаева, і аўтограф удзячнага А. Хачатурана, чые канцэрты вёў ва Ульянаўску музыказнавец М. Крэер у 67-м. Гісторыя —і ўрадавыя ўзнагароды, у тым ліку 18 баявых,—ён іх, праўда, не носіць.

У яго ёсць кнігі, выдадзеныя па-латышску і па-руску, і новыя рукапісы, здадзеныя ў набор: «Элегія памяці юнака», «Сёстры Крустэнсан», «Прakaза», «Праўда пра А. Я. Пельшэ», апавяданні... У яго ёсць нешматлікія сябры юнацтва, і некаторыя з іх жывуць, як і да вайны, у Мінску: і кампазітар У. Алоўнікаў (знаёмства з ім адбылося яшчэ ў Бабруйскай музычнай школе, Мікалай Мікалаевіч нават памятае першую песню свайго сябра!), і вядомы дзеяч харэаграфіі С. Дрэчын...

У яго ёсць святое для інтэлігента пачуццё абавязку перад памяццю. Мікалай Мікалаевіч хваляваўся: ці надарыцца ў яго магчымасць пабываць у Курапатах і паставіць там свечку. Але, канечне, душою ён там не раз пабываў — гэта галоўнае. І данінай памяці сталася ягоная публікацыя ў «Вячэрнім Мінску» за 22 жніўня — «Мой мілы, няшчасны бацька... (Пасля прачытання архіўнай справы НКУС СССР за нумарам 18514-С)». І старонкі новай аповесці рыжаніна М. М. Крэера жывяць ягоныя ўспаміны пра людзей і жыццё даваеннага Мінска...

Лісты Ларысы Пампееўны Александроўскай апошніх пяці гадоў яе жыцця, прапанаваныя для публікацыі ў «ЛіМе», — таксама знак памяці. Звычайнымі святочнымі прывітаннямі выглядалі б гэтыя лісты, калі б адразу трапілі яны пад музейнае шкло (балазе, самы малады наш музей — тэатральнай і музычнай культуры Беларусі палюе на такія рэліквіі). Але цяпер мы — і я, і вы, мае чытачы, — ведаем, якая трагічная гісторыя, якое складанае жыццё, якія трывалыя, выпрабаваныя лёсам сувязі людскія зашыфраваны ў простых ветлівых словах.

Мікалая Мікалаевіча ў Мінск прывяла памяць пра перажытае асабіста. Дзякуй лёсу за гэтую сустрэчу: вось жа як нечакана ажыла-вярнулася часцінка і нашай агульнай памяці...

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ.**

---

**1974 г., сакавік. Да Вікторыі Іванаўны.**

**Дарагая, адзіная, родная, Мама, якая ўсё разумее,— шчасце, радасць свайму сыну! Упэўненая — узаемна! Усю радасць, усё святло, бадзёрасць я зычу Вам, Мама, каб усё найлепшае ўпрыгожвала Вас унутрана, давала сілы жыць, жыць і жыць.**

**Віншую Вас з міжнародным жаночым днём 8 сакавіка, са святам вясны, дружбы, міру!**

**Абдымаю, моцна цалую, заўсёды Ваша Александроўская.**

●

**1974 г., красавік.**

**Шаноўны Мікалай Мікалаевіч! Атрымала Ваша віншаванне з 8 Сакавіка, за што і Вам і Вікторыі Іванаўне — дзякуй!**

**Пішу на навагодняй паштоўцы — заадно зычу ўсяго найлепшага Вам, Вашай сям'і ў 1974 годзе! Хацела напісаць Вам і не з нагоды святаў, але... у маім жыцці адбылася падзея — юбілей, які, разам з падрыхтоўкай, правядзеннем і інш., заняў шмат часу (дарэчы, юбілей быў так адзначаны, што мне дагэтуль не верыцца, што юбілей быў сапраўды мой і што ўсё, што было сказана і інш.,—тычыцца мяне!). Ужо вельмі ЗДОРАВА ўсё адбывалася! Ды пра гэта пазней.**

**Я збіралася Вам напісаць вось пра што: наведаўшы мяне дома, Вы распавялі мне пра некаторыя хвалюючыя для Вас рэчы. Я запомніла іх. Праз нейкі час я была ў нашым Суворaўскім вучылішчы. Мне паказалі наш, дакладней, іхні музей, дзе раптам я ўбачыла фота чалавека Вам непрыемнага. Таварышу з паліт-аддзела Суворaўскага вучылішча я расказала пра яго тое, што пачула ад Вас. Канечне, выказала яму гэта аднаму. У маі 1973 года мне зноў жа наладзілі сустрэчу ў Вучылішчы з таварышамі з Ленінграда і знаёмілі іх таксама з музеем, і тады я, на радасць і задавальненне, убачыла, што ТОЙ партрэт — ЗНЯТЫ, а фота Вашага бацькі красуецца ў належным для яго месцы. Ці ведаеце Вы пра гэта? Мне было прыемна! Напішыце мне. Зараз я хворая і пакуль увесь час дома.**

**Прывітанне і лепшыя пажаданні — Александроўская.**

**На жаль! Глянцавіты бок паштоўкі не прымае маіх радкоў. Ці разбярэцеся? — Ваша Л.П.А.**

●

**1974 г., снежань.**

**Дарагі й мілы Мікалай Мікалаевіч! Пішу са сваёй кватэры — папрасілася дадому к Новаму году. Здароўе лепей, ды чакаю добрага надвор'я!!! Дзякуй Вам за цёплыя словы! Мне дактары кажуць: «Вы моцная, трывушчая, цярплівая» — вось я і перанесла інфаркт, вось так... Справілася з ім — значыць, яшчэ моцная, пачну фізкультуру і ўсё будзе ў парадку. Не думайце, не расстрайвайцеся — і мама таксама парадуе яшчэ не адзін год! Беражыце сябе. Пішыце.**

**З сардэчным прывітаннем Ваша Александроўская.**

●

**1977 г., студзень.**

**Глыбокапаважаныя Вікторыя Іванаўна і Мікалай Мікалаевіч! Дзякуй за памяць і за Ваша такое сардэчнае віншаванне з Новым 1977 годам! Мне даводзіцца павіншаваць Вас з тым самым, ды толькі — Старым Новым годам (14.1). Але гэта здарылася таму, што я знаходжуся ў стацыянары ў Лечкамісіі і не мела магчымасці своечасова Вас павіншаваць. Тут знаходжуся даволі салідны час і пакуль яшчэ выхад адсюль не прызначаны...**

**Парадавалася Вашай новай кватэры! Калі апынуся ў Рызе (а ў мяне там ёсць родзічы), абавязкова адведаю і Вас. Дзякуй за гасціннае запрашэнне! Вам, усёй сям'і — самыя найлепшыя пажаданні ад усяго сэрца, і перш за ўсё здароўя! Радасных дзён, добрага настрою.**

**Абдымаю, Ваша Александроўская.**

●

**1978 г.,, май.**

**Дарагі і добры друг Мікалай! Вас і Маму ўзаемна віншую з цудоўным святам 9 мая, Днём Перамогі! Найлепшыя пажаданні ў жыцці, здароўя. У мяне яго няма — ляжу і праляжу ўвесь май, а потым... скажуць яшчэ. Пісаць лежачы кепска — не судзіце! Ці разбярэцеся?**

**А пра нырку ды сэрца — усё-такі трэба падумаць і паберагчы! Пісаць і друкавацца — больш ды часцей! Што калі мы Вас запросім да нас на даклад—пагаварыць пра мастацтва (не так, як міністр!) у новым сезоне? Вы гэтым займаецеся. Чакаю адказу. Жадаю шчасця, здароўя ўсёй сям'і.**

**Ваша Александроўская.**

**Да стала сесці і пісаць не пусціў доктар!..**

●

**1980 г.**

**Перадусім лічу сваім абавязкам прасіць прабачыць мне за такі запознены, несвоечасовы адказ на Вашы віншаванні і за няздзейсненае віншаванне са святамі і асабіста Вас, Мікалай Мікалаевіч, і Вашу дарагую, усім нам родную — Маму! Шчаслівая называць яе проста і сардэчна — родная Мама! Можна?**

**Цяпер напішу — чаму я не змагла павіншаваць Вас своечасова: пасля 8-мі месячнага знаходжання ў стацыянары — вылечвалася ад інфаркту — вярнулася дадому, але праз тры тыдні мяне ноччу завезлі зноў у стацыянар, дзе я знаходжуся сёння. Адвезлі мяне «без мяне» — я не збіралася і нічога, як звычайна, з сабою не ўзяла. І вось — я без сваіх кніжачак, запісаў з адрасамі: усё дома, закрыта наглуха сургучом: дакументы, пратаколы і інш. — схавана і без мяне — ніхто не можа іх узяць.**

**Гэта вытлумачэнне майго маўчання, маёй вымушанай нявет-ласці. Даравалі? Верыце, што гэта выпадковасць і мая бездапаможнасць — удакладніць Ваш адрас для пісьма!.. Дык — з вінаватай галавы мая віна скінута? Так?**

**А цяпер пераходжу да паштовак як «прабачоны грэшнік» і як глыбока паважаючая Вас, дарагі Мікалай Мікалаевіч! Шчасця, радасці, здароўя, здароўя, здароўя. Астатняе ўсё ёсць і будзе яшчэ лепш!!!**

**Ваша Л. Александроўская.**

**P. S. Кепска пішу, лежачы ў ложку... І не ведаю, калі адпусцяць дамоў.**

**Да! Да...**

**(Да пісьма прыкладзены фатаграфіі ў ролях, партрэтны здымак і фота 1942 г., дзе Ларыса Пампееўна пяе на танку перад байцамі. Гэта яе апошні ліст...).**

**Публікацыя М. КРЭЕРА.**

(Лісты друкуюцца выбарачна і ў перакладзе з рускай).

---

## КОНКУРСЫ

**Піяністы нашай рэспублікі неаднаразова ўдзельнічалі ў конкурсе імя Чурлёніса, вядомага літоўскага мастака і кампазітара, адзначаліся прэміямі і дыпломамі. Раней конкурс меў рэгіянальны статус, а сёлетні быў асаблівы — праводзіўся як міжнародны суверэннай дзяржавай Літвой. Беларусь на гэтым творчым спаборніцтве прадстаўлялі пяцёра піяністаў: малады педагог з Гродна Уладзімір Лябецкі; студэнты БДК Аляксандр Іваноў (пед. В. Рахленка), Дзмітрый Мальцаў (пед. Л. Юшкевіч), Ксенія Кузьменка (пед. Р. Шаршэўскі); навучэнец Музычнага ліцэя Дзмітрый Марозаў (пед. В. Рахленка).**

**Да прафесара Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Валянціны РАХЛЕНКІ — нашы пытанні.**

— Валянціна Леанідаўна, як адрозніваўся цяперашні конкурс ад папярэдніх?

## ВЫСТАЎКІ

У ВЕРАСНІ — кастрычніку ў Ваенным музеі Латвіі, прыгожым будынку старой Рыгі, праходзіла першая выстава Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі «Маю гонар».

Выстава рыхтавалася крыху больш, як паўгода. Менавіта ў студзені бягучага года мастак Вячка Целеш, што жыве і працуе ў Рызе, сабраў у сваёй майстэрні мастакоў-беларусаў з Латвіі, Летувы, Санкт-Пецярбурга і Эстоніі дзеля таго, каб аб'яднаць творчыя намаганні тых, што воляю лёсу адарваны ад роднай зямлі, але не згубілі духоўнай сувязі з ёю. На ўстаноўчым з'ездзе быў прыняты статут аб'яднання і запланавана першая выстава.

І вось яна адбылася. Разнастайная па тэматыцы і жанрах, выстава мае адметную рысу — даволі высокі прафесійны ўзровень аўтараў. Экспазіцыя склалася з работ мастакоў рознага напрамку, узросту і светапогляду. Мастацкую адукацыю яе ўдзельнікі атрымалі ў большасці па-за межамі Беларусі і таму, зразумела, увасабляюць у сваіх творах уплывы розных мастацкіх школ.

Старшыню аб'яднання Вячку Целеша добра ведаюць як у Рызе, так і ў Менску. Мастак,

## ПЕРАКЛАДЫ

**У верасні 1988 года Лі Шыфэй разам з пісьменнікам У Тайчанам наведаў Мінск, пакінуў на памяць зборнік сваіх вершаў «Любоў да Бэйдахуана».**

**Лі Шыфэй паэт старэйшага пакалення, у пачатку вызваленчай вайны ўдзельнічаў у стварэнні калгаса на Паўночным усходзе Кітая. Там знаходзіцца і Бэйдахуан (Паўночная пустыня). Паэт душою прырос да гэтых мясцін і людзей, ім і прысвечаны яго лепшыя творы.**

**У гэтай падборцы вашай увазе прапануюцца вершы вядомых кітайскіх паэтаў Лі Шыфэя, Цзоу Дыфаня, Лі Іна і Ван Гачжэня.**

**Лі ШЫФЭЙ**

### Зеляніна

Я вярнуўся з вечназялёных
хрыбтоў
поўдня,
Але мне даспадобы зеляніна
Паўночнага краю.

# «ПАДПОЛЬНЫ НАЦЫЯНАЛІЗМ І ДЗЯРЖАЎНАЕ БУДАЎНІЦТВА— РОЗНЫЯ РЭЧЫ. ТРЭБА ВЫБІРАЦЬ»

**(Пачатак на стар. 5).**

традыцый. Тут — як у мове. Якуб Колас пісаў — перш, чым пазычаць слова, трэба як след абшукаць кішэні ўласнае памяці — абавязкова знойдзецца нешта сваё.

Рэлігія... Рэлігія не можа быць кансалідантам нашае нацыі. На практыцы мы ўжо бачым нешта адваротнае. І уніяцтва, якое так хацелася назваць сваёй рэлігіяй, ужо грунтоўна зафарбаванае ў колеры трэцяга суседа — жоўта-блакітныя. Так што застаёмся свецкай дзяржавай з аднолькавай цярпімасцю да ўсіх канфесій.

Што да мовы... Наркомаўка — гэта не правапіс увогуле, гэта — палітыка ў абалонцы правапісу. І таму чыста мовазнаўчага канфлікту паміж наркомаўкай і тарашкевіцай няма. Паспрабуй «перакласці», скажам, Быкава ці Разанава з наркомаўкі на тарашкевіцу, і ты ўбачыш, што наша мова — адна, незалежна ад правапісу. Практыка сведчыць, што тыя, хто далучаюцца да мовы, вучацца ў Купалы, у Гарэцкага, у Караткевіча, па старой перыёдыцы,— дзе заўгодна, толькі не па выданнях пад рэдакцыяй К. Крапівы. Паводле маіх назіранняў, кансалідацыйнае значэнне мовы для беларусаў сёння вялікае.

А яшчэ незалежнасць будзе будавацца на веданні традыцый гэтай зямлі і на традыцыі правоў чалавека, на традыцыі дэмакратызму. Гэта будзе **свецкая незалежнасць.**

Я не згодны, калі сёння кажуць пра апатыю народа. Маўляў, народ усе сілы аддаў будаўніцтву камунізму і на будаўніцтва ўласнае дзяржавы моцы не засталося. Такі погляд вядзе да высновы: або адмовіцца ад свае дзяржаўнасці, або ўжыць максімальна жорсткія меры, якімі спрадвеку дыктатары перамагалі «апатыю народа». Трэба новая небяспека, новыя ворагі. Што мацуе нацыю ў пару станаўлення? — Напрыклад, канфлікт з суседзямі, у якім свае палітыкі могуць перамагчы і засведчыць сваю паўнавартаснасць... Але думка пра апатыю і пра патрэбу жорсткіх мер цалкам пярэчыць думцы пра пераемнасць.

Беларусы — стары народ. Яны перажылі ўсе жахі XX стагоддзя без сваёй дзяржавы. А цяпер, калі, здаецца, усё наладжваецца, яны не адчуваюць рэальнай патрэбы такога моцнага абарончага сродку, як Свая Дзяржава. Гэта зусім не апатыя. Гэта хутчэй норма. Адчуванне патрэбы сваёй дзяржавы прыходзіць з кожным новым палітычным крокам Рэспублікі да незалежнасці, з асветай, са зменамі візуальных адзнак асяроддзя. Марудна, але гэтае адчуванне прыходзіць. Заўваж, народ яшчэ не запярэчыў аніводнаму кроку да незалежнасці. Ён з мудрым спакоем прыняў і Дэкларацыю, і сімволіку. Ён прыме свае грошы, сваё войска, павольна, але ён прыме і мову. Бо гэта ўсё, як і сама незалежнасць, разумныя і негвалтоўныя меры. Наш народ не прыме хіба гвалту, накачвання новае ідэалагізацыі. Пераконваць народ у небяспецы дэнацыяналізацыі — тое самае, што тлумачыць небяспеку веткаўскай бабцы, якая як хадзіла, так і ходзіць у лес па чарніцы. І крычалі на тую бабку, і лічбамі палохалі, а яна ходзіць. Што рабіць? Адказ агульнавядомы — перасяліць. А ад бабкі патрабаваць толькі аднаго — згоды, але не разумення радыяцыйных працэсаў. Тое ж і з дэнацыяналізацыяй. Не трэба на народ перакладаць справы палітыкаў. Народу дзеля ўсяго патрэбны ўмовы, а не якая-небудзь новая «сознательность»...

З тае згаданае табою «тысячы» адраджэнцаў сярод некалькіх соцень падпісчыкаў на «Нашу Ніву» не набярэцца і дзесятка. Яшчэ 10 гадоў таму я ведаў амаль усіх, хто з прынцыпу гаворыць па-беларуску і ходзіць на ўсе імпрэзы. Цяпер з соцень падпісчыкаў і карэспандэнтаў (мы ўжо атрымалі каля 200 лістоў) я не ведаю амаль нікога. Адбываецца «прырашчэнне» кола. Прычым, пішуць збольшага не дзівакі, не «унікумы» і нават не палымяныя адраджэнцы, а зусім звычайныя людзі. Такіх на Беларусі сотні тысяч. У параўнанні з леташняй поштай «Свабоды» сёлетнія допісы ўсе — па-беларуску, менш эмацыйныя, больш дзелавыя, канкрэтныя. Дапамажыце дастаць звесткі, утварыць таварыства, выдаваць газету і г. д. Падобна, што на глебе беларушчыны пачынаецца «живое творчество масс». Так што ёсць на што разлічваць.

Мы выказваемся. Мы спрабуем стварыць вобраз сваёй нацыі, гаворым пра нацыянальныя адметнасці, параўноўваем беларускі светапогляд з іншымі, імкнёмся надаць уласным культурным каштоўнасцям той выгляд, у якім яны інтэграваліся б у сусветную культуру. Недзе там, на выхадзе, гэта скажацца і на палітыцы. І не будзе заяў кшталтам «Беларусь не мае нацыянальных асаблівасцяў, беларускую нацыю стварыла савецкая ўлада». Калі заўгодна, мы робім газету асаблівасцей. Ачышчаем вобраз нацыі ад наліплых ярлыкоў, шукаем логіку нацыі, сцвярджаем яе права...

**— Каб выдаваць «Свабоду», не трэба было эміграваць з Рэспублікі. А дзеля аднаўлення «Нашай Нівы» — няўжо абавязкова патрэбны былі пярэбары ў Летуву?**

— Так. Пра Вільню я ўжо сказаў, але гэта не адзіная прычына. «Наша Ніва» — віленская з'ява і, гэтаксама як Вільня, хутчэй **сама** ўплывае на нас, чым мы на яе.

Колішняя «Свабода», якую спрабавалі выдаць за некалькі гадоў да «НН», таксама як і «Наша Доля», як «Гоман», што выходзіў пасля «НН» — гэта ўсё газеты, якія ўваходзяць у нашаніўскую арбіту. Я тут увогуле бачу адно выданне — «Нашу Ніву». Адны людзі, адны мэты, адзін кірунак, адзін журналізм. Гэта беларуская газета, з якой можа вырасці і ўся ўласна беларуская журналістыка, вольная ад «бэсэсэраўскіх» стэрэатыпаў.

Калі я вучыўся на журфаку, там ці не за мэту ставілася выбіць з чалавека ягоную індывідуальнасць. Першаснымі былі ідэалогія, узор «Правды», партыйнай прэсы (нават, калі гутарка ішла пра макет), ленінская школа журналістыкі... І гэта ў той час, калі ў свеце адбываліся найцікавейшыя пошукі зместавых і выяўленчых канцэпцый газет! **Асоба** журналіста на журфаку была на дзесятым месцы. Вечна сноўдалі нейкія людзі з КДБ...

І сёння выхаванцаў журфака лёгка пазнаць у друку. Гэта асаблівы «журналізм», асаблівая выхалашчанасць. Ідэалогія адышла, а асоба так і не выйшла на першы план. Замест ідэалогіі быў высунуты лозунг «бесстароннасці», г. зн. адсутнасці сваёй думкі. Такі «плюралізм» — рэч мала рэальная. Рана ці позна, калі асоба на другім месцы, прыходзіць новая ідэалогія. Скажам, у газеце «7 дней», якая так упарта дэклявала сваю «бесстароннасць», ужо вылазіць ідэалогія расейскага фашызму. На сёлета я выпісаў у Вільню гэтую газету, каб мець найбольш поўны інфарматар пра жыццё Беларусі: усё ж БЕЛТАўскае выданне. Ды дзе там! Няма ніякае Беларусі: ёсць «Северо-западный край»; няма рэальных палітычных сілаў — БНФ, рабочага руху: ёсць толькі нейкая «Белая Россия», прадстаўнікі якой вярзуць пячорную лухту пра «враждебные нам правительства Прибалтики» і «единство русского народа». Пазнаю журфак! Гэтая ўстанова зрабіла і, мабыць, робіць усё, каб такой з'явы, як беларуская школа журналістыкі, не існавала. Які-небудзь Бялінскі там пераважвае ўсю нашу немалую самабытную традыцыю. Што, зрэшты, дзіўнага, калі літаратурную крытыку там выкладаюць людзі, якія абараніліся ў свой час на Жданаве?..

Але вернемся, братка, да Вільні. Быў у пярэбарах і беларуска-летувіскі чыннік. Нашыя 500 гадоў у адной дзяржаве — гэта ўдалае спалучэнне адрозных менталітэтаў, тонкая і каштоўная механіка. У нашыя адносіны самая прырода заклала мяжу прыстойнасці. Мы не «зліпнемся», а тое адчужэнне, якое практыкавала Масква, — яно штучнае. І гэта таксама справа «НН» — перакінуць культурны ды светапоглядны масток праз тую адчужанасць. Калі кажуць пра шлях у Еўропу, дык асабіста мне ён бачыцца не праз Маскву, як гэта было, і не праз Варшаву, а... праз Вільню. Гэта добра правераны шлях.

**— У сучаснай «НН» зноў-тки прачытваецца апазіцыйнасць традыцыйнаму друку. Але вы ставіце мэту ўвасобіць на старонках «Нашай Нівы» прынцып людскасці. Няўжо разлічваеце на пераарыентацыю тутэйшых чытачоў ад звыклае звышідэалагічнае прэсы да пакуль што апазіцыйнага і ў дадатак яшчэ «замежнага» друку?**

— Апазіцыйнасць, калі яна й ёсць,— гэта інерцыя, недахоп. Апазіцыйнаму прасцей, бо ён нясе меншую адказнасць і ў сучасных умовах дбае толькі пра ўласнае рэнамэ. Прасцей рабіць нешта ў піку камусьці, чым проста рабіць. Але прынцып людскасці не можа быць зрэалізаваны ў татальна апазіцыйным выданні. Гэты прынцып — мэта, якая ўвесь час уцякае. Таму праз «апазіцыйнасць» давядзецца пераступіць.

Што да арыентацыі чытачоў, дык не думаю, што яны звыкліся да звышідэалагізаванае прэсы. Звыкся той, хто можа звыкнуцца да турмы, да страху, да біцця палкай па галаве. Людскасць у прэсе сцвярджала колішняя «НН»—яшчэ да ўсякіх ідэалогій і звышідэалогій. Дый «замежнасць», калі яна адчуваецца, мусіць быць пераадоленая. Паміж свядомасцю беларуса і Вільняй не павінна быць ніякіх межаў. Ужо для гэтага трэба было б аднавіць «НН».

**— Многія ўважаюць «Нашу Ніву» за выданне еўрапейскага ўзроўню. Як разумеюць еўрапейскі ўзровень прэсы самі яе выдаўцы?**

— Гэта свабода. А свабода, дарэчы, больш за еўрапейскасць ці амерыканскасць, ці які панславізм. Яна больш дакладная за іх, бо яна можа быць толькі **свая.** Скажам так: мы, беларусы, найбольш адэкватныя гэтаму свету менавіта як беларусы. Прырода наша такая. Характар сфармаваны спецыфічным атачэннем і гістарычным лёсам. І найбольш чалавечныя мы — як беларусы. І найбольш свабодныя. А свабода тым большая, чым больш непадзельная адказнасць. Я адказваю—і толькі. Што зрабіў — тое й ёсць. Адсюль — прага прафесіяналізму, каб не рабіць лухты. Гэта тры сланы: свабода, людскасць і прафесіяналізм. А жаўла пад імі — безадноснае існаванне чалавека. Вось і ўсё.

Ці не пра тое ж пісаў І. Абдзіраловіч, які падвёў філасофскую рысу пад шуканнямі нашаніўскае пары? Калі б у школе на ўроках беларускай літаратуры вывучалі толькі яго — усё астатняе вучні прачыталі б **дома самі...**

**— У Анатоля Сідарэвіча незалежніцкая ідэалогія змяшчае, акрамя адраджэнства, яшчэ й «песімізм». У цябе, трэба меркаваць,—«апазіцыйнасць». Гэта—ад асабістага ёрніцтва ці гэта настрой, абумоўлены рацыянальна?**

— Апазіцыйнасць — гэта ніколі не рацыянальна. Гэта **вымушаныя** ўцёкі ад нармальнае працы і ад свабоды. Для маладосці гэта можна было апраўдаць бракам досведу і сродкаў. Цяпер жа няма патрэбы станавіцца ў апазіцыю да ЦК, КДБ, СП, дурной літаратуры. Трэба апраўдваць усе свае авансы. Апазіцыянер заўсёды залежны ад таго, каму процістаіць. Апазіцыянер — плён **пазіцыянера.** І я імкнуся быць пазіцыянерам.

**— Таму ж А. Сідарэвічу для таго, каб мы сталі нацыяй, не хапае сваёй буржуазіі. Чаго нам не хапае на твой погляд?**

— Мы нацыя ёсць. А не хапае нам улады.

Кажуць, што не трэба прэзідэнцтва, бо Пазняк не набярэ галасоў. Але тут крыху не так ставяць пытанне. На маю думку, нам трэба прэзідэнцтва, бо гэта будзе давяршэннем структуры ўлады незалежнай дзяржавы. І няхай прэзідэнтам стане хто заўгодна — сёння не ў гэтым сэнс. Там ужо пачнецца ўнутраная палітыка. Адстаўкі, перавыбары і г. д. Справа не толькі ў тым, што С. Шушкевіч у Георгіеўскай зале выглядае, як маёр сярод палкоўнікаў. Справа ў тым, што калі ён «не зусім» кіраўнік, дык і спытаць з яго можна толькі «не зусім».

Сітуацыя досыць парадаксальная. Нацыя мусіць мець як давяршальную прыступку свайго развіцця нацыянальную дзяржаву. Але ўзмацняць уладныя структуры нельга, бо гэта значыць узмацняць наменклатуру. Пакуль няма экспансіі з боку Расейскай імперыі ці Польшчы, а нават і Украіны, пакуль утварыўся такі геапалітычны вакуум, патрэбы максімальна рафінаваць уладу на Беларусі як быццам няма. Але экспансіі могуць выбухнуць нечакана. Хутчэй да крызісу, чым да стабільнасці ідзе сітуацыя ў Расеі і Польшчы. А там можа быць дэпрэсія, з якой гэтыя дзве рамантычныя краіны спрадвеку выбіраюцца праз жорсткія меры, праз дыктатуру, якая ніколі не лічылася ні з намі, ні з летувісамі, ні з іншымі. Словам, наперадзе суцэльная неспадзяванасць. І таму БНФ, як найбольш цэльная і падрыхтаваная палітычная сіла, мусіць узяць уладу. Названы варыянт — апасродкаваны — уяўляецца мне сёння найбольш рэальным.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# УСПОМНІМ СЯБЕ, СПАДАРЫ

Адраджаючы сёння нашае нацыянальна-культурнае жыццё, мы з поўнай падставай аглядаемся на сваё мінулае і шукаем там грунт для многіх нашых спраў. За 74 гады самага «шчаслівага» жыцця мы страцілі не толькі права быць гаспадарамі свайго лёсу, але і павагу да бліжняга і нават самапавагу. Страцілі звароты ветлівасці. Даўняе слова ТАВАРЫШ не прыжылося, бо не магла ж працоўная істота стаць таварышам наменклатурнаму гусаку. Слова ГРАМАДЗЯНІН стала ўжывацца пры звяртанні да злачынцаў, а ходкім словам ДЕВУШКА можна было многіх абразіць. І сталася гэта пры тым, што мелі ў сваёй мове багаты арсенал сродкаў і формулы зваротаў ветлівасці. У не надта далёкай нашай старажытнасці, у Вялікім княстве Літоўскім, былі нават рэгламентаваны спецыяльныя формулы пры афіцыйным звяртанні. Калі, напрыклад, позва ў суд была складзена з парушэннем гэтых абавязковых формул, то пазваны меў права не прыняць яе.

Сёння ўсё часцей пры афіцыйным звяртанні ўжываецца слова СПАДАР, слова, якое яшчэ нядаўна было пад фактычнай забаронай. За ўжыванне гэтага слова можна было атрымаць ярлык бебурнаца (беларускага буржуазнага нацыяналіста) з адпаведнымі санкцыямі. Таму карысна будзе глянуць, ці абгрунтавана гістарычна яго ўжыванне ў беларускай мове, штучна прыдумана яно або мае жывыя карані ў нашай мове.

Корань слова СПАДАР бярэ вытокі ў далёкім дапісьмовым праславянскім перыядзе, ён вядомы ўсім славянскім мовам. У нашай старажытнай пісьменнасці фіксуюцца асновы ГОСПОДА, ГОСПОД, ГОСПОДАР і ГОСУДАР з вялікай колькасцю вытворных ад іх слоў. Прытым, ужо ў XV стагоддзі адзначаецца тэрытарыяльнае размеркаванне асноў ГОСПОД — ГОСУД. Для беларускай тэрыторыі характэрна ўжыванне вытворных ад ГОСПОД, (ГАСПАД), а для Маскоўскай Русі — ГОСУД: всказалъ еси, ижъбы въ тыхъ делехъ великіи послы от нашого ГОСПОДАРЯ были посланы къ вашому ГОСУДАРЮ (Акты, относящ. к. ист.Зап России, т 1, с. 133. 1493 г.).

Слова ГАСПАДАР у старабеларускай мове мела асноўнымі значэннямі «уласнік», «уладальнік» (дома, маёнтка, абшару) і «правіцель». Яно ўжывалася і як сінонім да тытула Вялікі князь Літоўскі: Мы ГОСПОДАРЪ шлюбуем не карати на заочное поведанье (Статут ВЛК 1588 г., раздзел І, артыкул 2).

Даволі рана пісьменнасць фіксуе і скарачэнні гэтых асноў. Так, слова ОСПОДЬ адзначана ў XIV ст. Слова ГОСУДАРЬ у расійскай мове скарацілася ў ОСУДАРЬ, а затым — у СУДАРЬ. Апошняе найбольш характэрна было для формул ветлівасці.

У нашай мове дзейнічала тая ж мадэль скарачэння, аснова ГОСПОДАР магла скарачацца ў ОСПОДАР, затым у СПОДАР. Картатэка Гістарычнага слоўніка беларускай мовы гэтыя скарачэнні фіксуе з XV ст.: пры ОСПОДАРЬСТВЕ короля Казимера (Акты, относящ. к ист. Зап. России, т. 1, с. 112, 1489 г.). У XVI ст.. сустракаем і жаночы адпаведнік гэтага слова: просилъ мя, абыхъ ему то отложылъ до ОСПОДАРИНИ королевой ее милости (Акты, издав Вилен. археогр. комиссиею, т. XVII, с. 186, 1540 г.).

З XV ст. вядома і форма СПАДАР. Прычым, ужыванне яго ў помніках рознага жанрава-стылявога характару сведчыць, што гэтае слова шырока распаўсюдзілася ў жывой мове. Сустракаем слова СПАДАР у беларускім перакладзе Судзебніка караля Казіміра 1468 года, у гэтым папярэдніку нашых статутаў: А колі чоловекъ у злодейство упадеть, а будет СПОДАРЬ тое ведалъ. Ужыта ў рэлігійным творы: то ест СПОДАРЬ всему сотворению (Чэцця 1489 г.). Вельмі паказальна, што вядомы паэт XVI ст. А. Рымша слова СПАДАР прымяняе да славутага магната Льва Сапегі ў сваёй одзе на яго герб:

При которих зъ оружъемъ конный воинъ стоить,
Знакомъ того иж ся з нихъ не одинъ не боить.
Служить своимъ СПАДАРЕМЪ ку кождой потребе,
Не литуючи скарбов ни самого себе.

(Статут ВКЛ 1588 г.).

Ужыта яно і аўтарам палемічнага твора Ліста да Абуховіча: Да не гневайся, СПОДАРУ. А хто ж кого остережет, колі не милый давный твой друг... Наш вядомы даследчык беларускай пісьменнасці арабскім пісьмом А. Антановіч засведчыў слова СПАДАР у Кітабе XVII ст. У пачатку XVIII ст., у Баркулабаўскім летапісу сустракаемся мы і са СПАДАРЫНЯЙ: мовили так матухно зезулюхно утухно панюшко, СПОДАРЫНЯ солнца месяцъ звездухно, дай крошку хлеба...

Прыведзеныя прыклады сведчаць, што словы СПАДАР і СПАДАРЫНЯ (у пісьменнасці — у тагачаснай арфаграфіі, без перадачы акання) ужо ў старабеларускі перыяд былі прыналежнасцю жывой мовы і пісьменнасці. Яны працягвалі жыць, як сведчыць «Словарь белорусского наречия» І. Насовіча, і ў XIX ст. Дзеячамі нацыянальнага адраджэння ў XX ст. яны былі толькі ўваскрэшаны, і, як многія іншыя набыткі нашай мінуўшчыны, маюць права на далейшае жыццё.

І. КРАМКО.

**ЛІТКУР'ЕР**

## З'езд і вырашыць...

На чарговым пасяджэнні Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі разгледжана пытанне: «Аб пазіцыі Саюза пісьменнікаў Беларусі ў адносінах да сітуацыі, што склалася ў Саюзе пісьменнікаў СССР і Літфондзе СССР».

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнак пазнаёміў прысутных з праектам дэкларацыі, якую даслаў сакратарыят СП СССР, «Аб асноўных прынцыпах пераўтварэння Саюза пісьменнікаў СССР у Садружнасць незалежных пісьменнікаў». Паведаміў, што ў адрас СПБ паступілі тэлеграмы ад сакратарыятаў СП СССР і СП РСФСР адносна правядзення IX з'езда пісьменнікаў, далейшага існавання СП СССР і Літфонду СССР.

Па гэтым пытанні выступілі: Н. Пашкевіч, В. Быкаў, І. Чыгрынаў, В. Хомчанка, В. Вільтоўскі, А. Петрашкевіч, П. Макаль, І. Шамякін, Я. Брыль, І. Жарнасек, У. Паўлаў, А. Жалязоўскі, А. Дудараў, В. Тарас, А. Пісьмянкоў, П. Пруднікаў, І. Ласкоў, С. Грахоўскі, якія выказаліся за тое, што IX з'езд пісьменнікаў павінен адбыцца. Ён і вырашыць усе надзённыя праблемы шматнацыянальнай пісьменніцкай арганізацыі краіны.

Пра гэта рашэнне паведамлена сакратарыяту СП СССР. Была паслана яшчэ адна тэлеграма ў Маскву ад імя Рады СПБ, дзе выказана думка прысутных і праўлення Беллітфонду аб падтрымцы ідэі стварэння міжрэгіянальнай грамадскай арганізацыі «Літаратурны фонд».

Старшыня прававой камісіі СПБ В. Хомчанка паведаміў прысутным, што Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь 28 кастрычніка 1991 года зарэгістравала Статут Саюза пісьменнікаў Беларусі і выдала рэгістрацыйнае пасведчанне за № 170.

## Барыс Ельцын — «Дзецям Чарнобыля»

Прэзідэнт Расіі Б. Ельцын перавёў на рахунак Беларускага камітэта «Дзеці Чарнобыля» ганарар за сваю кнігу «Споведзь на зададзеную тэму», якая толькі што выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў перакладзе на беларускую мову Я. Лецкі.

## І пра тое, што будзе...

Студэнты і выкладчыкі філалагічнага і гістарычнага факультэтаў Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага сустрэліся з Ленідам Дайнекам. Пра яго творчасць расказалі Мікола Мішчанчук і Аляксей Рагуля. Аўтар раманаў «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака» і «Жалезныя жалуды» падзяліўся творчымі планамі, адказаў на шматлікія пытанні прысутных.

**Л. ГЛІНСКАЯ.**

## Камплект «Нашай Долі»? Калі ласка!

Аматары даўніны на днях атрымалі яшчэ адзін падарунак — камплект газеты... «Наша Доля». Але, «першай белорускай газэты для вёсковаго и местоваго рабочаго народу», якая прыйшла з самой друкарні «Артель Печатнаго Дъла» ў Вільні, дзе выпускалася, як вядома, у 1906 годзе.

Зрабіць гэты шлях ажно ў 85 гадоў «Нашай Долі» дапамагло выдавецтва «Навука і тэхніка», дзе пабачыў свет факсімільны выпуск газеты.

Выданне зроблена з паасобнікаў, якія захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь, у бібліятэцы імя У. І. Леніна, у Літаратурным музеі Янкі Купалы, у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына і Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літоўскай Рэспублікі. Адказны за выпуск З. Санько.

Так што паспяшайцеся набыць «Нашу Долю», бо наклад невялікі, усяго 1 100 адпаведнікаў. Кошт? Па сённяшніх цэнах, дык зусім мізэрны: адзін рубель (калі не лічыць пяці капеек «прэзідэнцкіх»).

**ТЭАТР**

## Менск, Санкт-Пецярбург, антрэпрыза...

Адным з вядучых выканаўцаў «Тэатра драматычнага танца» з Санкт-Пецярбурга зрабіўся акцёр Маладзёжнага тэатра Беларусі Васіль Нікіценка: умовы пецярбургскай антрэпрызы дазволілі менчуку браць удзел у спектаклі «Дама з камеліямі» паводле А. Дзюма-сына, Х. Картасара і А. Уайльда на музыку Бетховена, Сібеліуса і П. Ружычкі. Рэжысёр і мастак спектакля — Уладзімір Карэлін. Ён таксама рыхтуе спектакль «Ідыёты» паводле Ф. Дастаеўскага з удзелам беларускага артыста. У сёлетнім сезоне «Тэатр драматычнага танца» чакае на гастролі Ізраіль, абмяркоўваецца таксама прапанова з Японіі.

## Мы ўсе вучыліся патроху...

Стыпендыяй імя Г. Глебава заахвочаны Андрэй Грабёнкін, студэнт пятага курса рэжысуры БДТМІ, ягоная калежанка, трэццякурсніца спецыяльнасці «акцёр тэатра лялек» Алена Конская атрымлівае стыпендыю імя Б. Платонава.

●

Семінар «Комплексная падрыхтоўка акцёраў і рэжысёраў у тэатральнай школе» створаны на базе БДТМІ летась. Сёлета, з 21 па 25 лістапада, заняткі семінара адбудуцца ізноў. Для іх правядзення запрошаны вядучыя маскоўскія педагогі А. Дразнін (пластыка, сцэнічны рух), В. Бозная (танец), Л. Хейфіц (майстэрства акцёра і рэжысура); не застануцца ўбаку і тутэйшыя спецыялісты.

●

У Мінскім інстытуце культуры паспяхова закрылася кафедра методыкі культасветработы. На яе базе створана аддзяленне, дзе будуць рыхтавацца менеджэры культуры, кіраўнікі студый выяўленчага мастацтва.

**А. МІХАЛЬЦОВА.**

**МУЗЫКА**

## Сафійка — дзецям



Дзяцей ды падлеткаў вабіць разнастайнае, захапляючае. Ды не заўсёды мы, дарослыя, можам падтрымаць іхнія імкненні: бракуе часу, умення, цярплівасці, магчымасцяў... Насустрач нам і нашым дзецям ідуць прафесіяналы: настаўнікі, спартсмены, музыканты. Ужо некалькі гадоў працуюць у Полацку ды Наваполацку студыі эстэтычнага выхавання, спартыўныя секцыі, танцавальныя гурткі. А ў канцэртнай зале Сафійскага сабора штогод ладзяцца музычныя абанементы для школьнікаў. Сёлета з кастрычніка. дзякуючы пяці канцэртам новага абанемента, дзеці знаёмяцца з рознымі інструментамі — арганам, скрыпкай, флейтай, фартэпіяна, сустракаюцца з цікавымі выканаўцамі, у тым ліку і равеснікамі, якія сталі лаўрэатамі Усесаюзнага конкурсу маладых выканаўцаў. Свет класічнай музыкі з яе скіраванасцю да прыгожага, высокага, добрага дапаможа дзіцячай душы знайсці свой ідэал.

**К. ПАГАРЭЛАЯ.**

Фота А. МАРЦІНКЕВІЧА.

## Апошні раз пад кіраўніцтвам Гендэльмана

У Гродне распачаў новы канцэртны сезон гарадскі камерны аркестр. Выступленне адбылося ў зале Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі. Музыканты прысвяцілі канцэрт 100-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча, хоць праграма канцэрта, складзеная з твораў замежных ды беларускіх кампазітараў, на першы погляд, мела малое дачыненне да песняра. Але ж шырокія музыказнаўчыя веды Багдановіча і шчырае захапленне самай рознай музыкай агульнавядомыя — пра што было згадана ва ўступным слове.

Апроч твораў А. Карэлі, І.-С. Баха, Л. Абеліёвіча, П. Альхімовіча, ужо вядомых прыхільнікам аркестра, гучала і прэм'ера — Сімфонія гродзенскага кампазітара А. Бандарэнкі. На канцэрце, у якім таксама ўдзельнічала спявачка Г. Качалава, прысутнічалі госці з Германіі. Яны выказалі свае добрыя ўражанні, асабліва зацікавіўшыся творчасцю А. Бандарэнкі, і запрасілі да сябе на гастролі.

Гэтае выступленне Гродзенскага камернага ў апошні раз праходзіла пад кіраўніцтвам А. Гендэльмана, які ўзначальваў калектыў з часу яго стварэння. На змену дырыжору, які пакінуў Гродна, прыйшоў сёлетні выпускнік БДК У. Борматаў. Першыя праведзеныя маладым музыкантам рэпетыцыі дазваляюць глядзець на перспектыву аркестра з аптымізмам.

**А. САЛАДУХІН.**

## Смех смехам...

На нямецка - савецкім фестывалі смеху ў германскім горадзе Цюбінгене з поспехам выступіў вядомы мінскі ансамбль музычнага гумару «Калаж». Ён атрымаў запрашэнне наведаць фестываль і ў 1992 годзе. Гэта ўжо сур'ёзна...

**Н. В.**

## Кожны трэці панядзелак

Адкрыў свой трэці сезон Рэспубліканскі клуб аматараў класічнай музыкі, заснаваны Саюзам музычных дзеячаў ды Саюзам кампазітараў Беларусі. У праграмах (а яны ўжо набылі папулярнасць) — сустрэчы з беларускімі кампазітарамі, вернісажы, творчыя вечары вядомых інструменталістаў і спевакоў рэспублікі. Клуб запрашае ўсіх, каго цікавіць музычнае мастацтва, кожны трэці панядзелак месяца а 19-й гадзіне ў залу Саюза кампазітараў Беларусі — плошча Свабоды, 5.

**Н. ВАСІЛЬЕВА.**

**НАШЫ ГОСЦІ**

## «Прачынаюцца людзі...»

«Прачынаюцца краіны, прачынаюцца людзі, прачынаюцца мужчыны і жанчыны... Адбываецца вялікая падзея: Беларусь нараджаецца наноў», — так казаў, звяртаючыся да запоўненай залы, сусветна вядомы евангеліст з Нігерыі Вільям Кумуі. Згадзіцеся, гэта не часты ў нас выпадак, калі госць з далёкага замежжа дакладна ведае, да каго — якіх людзей, якога народа — звяртаецца.

Пропаведзь слова Божага за пяць дзён пачула досыць шмат жыхароў Мінска. Многія былі з дзецьмі. Палац спорту, які чаго толькі ні пабачыў за час свайго існавання, зведаў узвышаны, хвалюючы настрой. Стаў зразумелым адзін з «сакрэтаў» уплыву пратэстанцкай царквы на людскія сэрцы: ён у дэмакратызме, у прамым пранікнёным звароце да вернікаў, у тонкай апеляцыі да пачуццяў. Думаецца, тое-сёе з іхняга арсеналу можна было б пераняць і нашым адраджэнцам...

**Г. ЗІНКЕВІЧ.**

**НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ**

## Згадалі Зорыча?

У Шклове гасцінна расчыніў свае дзверы Палац культуры. Свята гэтае супала з заняльным аглядам самадзейнасці. Застаецца толькі радавацца, што мясцовыя ўлады нарэшце ўспомнілі... Зорыча! Але графа С. Зорыча, які ў самыя змрочныя, як мы любілі казаць сем дзесяцігоддзяў, часы дбаў аб развіцці культуры. Ягоныя прыгонныя спевакі, драматычныя акцёры, танцоры з поспехам выступалі ў спецыяльным тэатральным будынку, пабудаваным яшчэ ў 1780 годзе. У канцы XVIII стагоддзя ў Шклове пры гэтым жа тэатры існавала і свая балетная школа...

І вось зноў у Шклове расчыніў дзверы Палац культуры. Магчыма, пасля гэтага з'явяцца ў Шклове і свае артысты балета. Праўда, ёсць адно «але». Справа ў тым, што для развіцця культуры С. Зорыч меў сродкі. Ці хопіць іх у гарадскіх і раённых улад Шклова?

**ДРУК**

## Чарговы нумар «Спадчыны»

Па апратцы сустракаюць... Што ж, «апратка» «Спадчыны» канчаткова пазбаўляецца агітацыйнай покклічнасці, як гэта было ў яе папярэдніка — бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». У чарговы раз чытач мае магчымасць пазнаёміцца ў часопісе з рэпрадукцыямі вядомых палотнаў. На першай старонцы вокладкі — «Партрэт хлопчыка ў саламяным капелюшы» І. Хруцкага, на апошняй — яго ж нацюрморт «Гародніна, грыбы і рыба». На другой старонцы вокладкі — вядомы «Групавы партрэт» І. Аляшкевіча, на ўкладцы — дзве работы М. Сіліваноўіча — «Аўтапартрэт» і «Салдат з хлопчыкам». Астатнія каляровыя ілюстрацыі — выявы марак, выпушчаных у Германіі ў 1949 годзе па даручэнні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, і карта-схема этнаграфічных і палітычных межаў Беларусі ў 1921—1926 гг. Як «удакладняліся» гэтыя межы, бачна з артыкула А. Цітова «Узбуйненне».

Розныя пытанні нацыянальнай гісторыі закранаюцца ў артыкулах «Беларусі вызваленчы рух. Спроба агляду» А. Каўкі, «Незалежнасць пасля Любліна, або Магнацка-шляхецкая «беларусізацыя» П. Лойкі. Супраць нацыянальнага бяспамяцтва скіраваны публіцыстычны роздум В. Ракіцкага «Эпоха Адраджэння?».

На літаратурных старонках «Спадчыны» — паэзія А. Салаўя, пачатак мастацкага нарыса Ю. Віцьбіча «Плыве з-пад Святое гары «Нёман», пераклад са старабеларускай М. Рамаmaking ўскай вядомай «Аповесці пра Трышчана», працяг «Новага запавету» (пераклад і каментарыі А. Клышкі), «Летапісу Вялікіх Князёў літоўскіх» (пераклад са старабеларускай і каментарыі В. Чамярыцкага).

У раздзеле «Даследаванні, меркаванні, гіпотэзы» — артыкулы І. Войніча «Пісьменнік-палеміст» (пра Іосіфа Вельяміна Руцкага), Ю. Туронка «Беларускія Марыяны ў Друі», А. Краўцэвіча і А. Трусава «Знаходкі ў Лідскім замку».

Завершана публікацыя артыкула З. Жылуновіча «Нацыянал-дэмакраты за «працай». А. Рогалеў рэцэнзуе кнігі «Старажытная Беларусь» М. Ермаловіча і «Узнікненне Беларусі: новая канцэпцыя» М. Піліпенкі.

**АНОНС**

## У кожнага свой «Амадэус»

19 лістапада ў ДАВТе пачынаецца невялічкі фестываль, прысвечаны вялікай даце — 200-м угодкам з дня смерці Моцарта. Філармонія наша, як вы памятаеце, прысвяціла гэтай даце чарговую «Мінскую вясну», назваўшы фестываль імем геніяльнага Амадэуса. Цяпер з яе дазволу гэтую назву пазычае оперны тэатр. Што зробіш, Моцарт жа ва ўсіх адзін. І разам з тым, у кожнага ён — свой. Які Моцарт у нашага ДАВТа, мы ўвогуле ўяўляем: «Чарадзейная флейта», «Дон Жуан», «Вяселле Фігара», «Моцарт і Сальеры» (гэта, зразумела, опера ўжо не Моцарта, а Рымскага-Корсакава)... Але, апроч таго, у афішы «Амадэуса» будуць і сюрпрызы, самы вялікі з якіх, канечне ж, спектакль нашых гасцей з Летувы «Так робяць усе». Цікава, які ж Моцарт у тэатры нашых суседзяў?

**С. Б.**

HOMO HUMANUS

**Гісторыя ўзаемаадносін «лепшай» і «горшай» паловы чалавецтва сведчыць за тое, што прадстаўнікі апошняй тым не менш пераўзышлі сваіх спадарожніц у... хітрасці. Напрыклад, мужчыны ад часоў Адама стварылі класічны міф аб «другасортнасці» жанчыны, запісаўшы сваёй кемлівай рукой у Біблію, што Жанчына была створана Усявышнім толькі ПАСЛЯ мужчыны, і пры гэтым — з «вторсырья» — рабра Адама... Праз стагоддзі міф аб другасортнасці жанчыны толькі дапаўняўся.**

**І на плечы «лепшай» паловы «горшая» пераклала асноўны цяжар сямейнай працы. А савецкая «горшая» палова яшчэ й прымусіла яе працаваць ля станкоў, брукаваць вуліцы і ратаваць ураджаі на палетках...**

**Юрась ЗАЛОСКА,**
**вядучы рубрыкі.**

# «Спадарыня, дазвольце даведацца прычыну вашага суму?..»

## Жаночы партрэт на фоне таталітарызму

Жаночая тэма заўсёды была адной з нямногіх, цікавых чытачу і незабароненых. Праблемы кахання, сям'і і жаночай адзіноты актыўна абмяркоўваліся ў даперабудовачным друку. Напрыклад, гады 50-ыя. Дыскусіраваўся лозунг — памры, але не давай пацалунка без кахання. Некаторыя, маральна няўстойлівыя, сарамліва сцвярджалі, што ўсё-такі можна не паміраць... Асноўная маса — пярэчыла.

Гады 60-ыя. Паўсюдна крытыкавалі модніц. На іх малявалі карыкатуры. Помню размаляваную дзяўчыну ў часопісе «Работница», у вузкіх штоніках, якая самаўлюбёна глядзіцца ў люстэрка, а ўнізе надпіс: «При таких ресницах, при таком колье буду я рядиться в модном ателье». (Атэлье тады толькі з'явіліся). Адразу ж такіх модніц пачалі бічаваць.

Потым бічавалі «эмансіпэ».

У 70-ыя гады ўжо ўсе зразумелі — з жанчынай творыцца штосьці не тое: страціла жаноцкасць, на мужа гырчыць, дзяцей лупцуе. Дзеці прадастаўлены самі сабе і збіваюцца ў зграі, расце злачыннасць. Падае нараджальнасць. Апошняе асабліва турбавала дзяржаву. У выніку жанчын пачалі тэрмінова пераконваць, што сям'я і дзеці не менш важныя, чым выкананне плана. Узяліся рэкламаваць шматдзетных маці: фільм знялі з Гундаравай у галоўнай ролі.

На экране ўсё было прыгожа і кранальна, але жанчыны ад гэтага не сталі больш дамавітымі і не сталі больш нараджаць. Прапаганда аказалася бяссільнай. Бо, як сцвярджае вядомы нам К. Маркс, «быццё вызначае свядомасць». А быццё ў жанчыны такое, што нават адно дзіця цяжка выгадаваць. Пра трох-чатырох і гаворкі няма: не звядзеш канцы з канцамі. Пара, відаць, разабрацца, як ставілася да жанчыны «сацыялістычная дзяржава»: як да дачкі роднай альбо як да «шасцяронкі» ў дзяржаўным механізме?

...У дасавецкія часы ўсё было проста і ясна: была пані, спадарыня (культурная жанчына) і была — простая баба. Адпаведна — і адносіны. Ні ў якай меры не лічу такую сітуацыю нормай. Яна павінна была змяняцца, як ва ўсіх цывілізаваных краінах, дзе ніжэйшыя пласты грамадства паступова ператвараліся ў сярэдні клас, досыць забяспечаны і культурны.

У 17-ым годзе загінула дарэвалюцыйная цывілізацыя. Разгром свабоднай эканомікі суправаджаўся глабальнай гібеллю культуры ва ўсіх формах: культуры адукацыі, зносін, выхавання, культуры сям'і і — культуры стаўлення да жанчыны. Калі да 17-га года да яе звярталіся: «Спадарыня, дазвольце даведацца прычыну вашага суму?», дык сёння яе спытаюць: «Ну, чаго надзьмулася, як мыш на крупы?».

**Пасля рэвалюцыі былыя «спадарыні» пайшлі працаваць сакратаркамі і стэнаграфісткамі (у лепшым выпадку), а начальнікамі ў іх рабіліся былыя матросы. Людзі з мінімальнай культурай атрымалі максімальную ўладу. І свой мінімум зрабілі нормай для ўсіх. Тое, што вышэй за мінімум, стала падазроным і небяспечным. Калі ты ветлівы і не ходзіш у пакамечаных штанах, значыць, прадстаўнік эксплуататарскіх класаў. Культурны чалавек вымушаны рабіцца больш простым, маскавацца, каб не стаць для дзяржавы мішэнню.**

**Новыя пакаленні выхоўваліся на падставе люмпенскіх звычак. Плён такога выхавання мы перажываем дагэтуль: гэта і брудныя сталоўкі, і запляваныя тратуары, і невычэрпны мат. Нас усіх прывучалі жыць на люмпенскім узроўні. І жывём.**

Тургенеўскіх паненак у савецкіх умовах вельмі хутка звялі. Жанчына адукаваных пластоў страціла тыя перавагі, якія давала ёй дарэвалюцыйная культура — перавагі, заснаваныя на разуменні жаночай слабасці, ранімасці, на ўсведамленні таго, што ад яе ў велізарнай ступені залежыць будучыня нацыі.

Нашы правадыры пра будучыню, падобна, не вельмі хваляваліся. Магчыма, асляпленыя ўласнай прапагандай, меркавалі, што яна абавязкова будзе светлай, нікуды не дзенецца! А верагодней за ўсё, проста былі ўпэўнены, што добрага жыцця хопіць і ім і іхнім унукам. Таму і выціскалі з краіны як мага больш: з зямлі, з яе нетраў, і з «простых савецкіх людзей» таксама.

Рабочая жанчына, сялянка, да рэвалюцыі падпарадкоўвалася мужу, прызнавала яго дамінаванне. Ён быў галава. Але ён быў і карміцелец. «Забіты, эксплуатуемы» дарэвалюцыйны рабочы сяк-так, але ўсё ж мог утрымліваць сям'ю. Пераможцы ж «гегемон» зрабіць гэта аказаўся не ў стане. Праўда, за дармаедства замужніх жанчын, слава Богу, не саджалі, але нястача вымушала іх працаваць. **Дзяржава адняла ад зарплаты мужчыны роўна столькі, каб ён вымушаны быў выпраўляць на працу жонку!**

**Дзяржаве патрэбны былі «вінцікі», паслухмяныя выканаўцы, якія мала патрабуюць, але шмат аддаюць. І жаноцкасць, і мужчынскасць — залішняе для вінцікаў. Мужчынскасць — гэта ініцыятыва, свабода думак, гэта здольнасць на ўчынак, на процідзеянне. А жаноцкасць — гэта дадатковыя выдаткі. Значыць, патрэбны ўборы, касметыка, цырульні і вольны час, каб зрабіць сябе прыгожай. Але дзяржава не збіралася ўсё гэта жанчыне прадастаўляць. Замест таго, каб даць людзям нармальную зарплату, жыллё, адзенне і шмат што яшчэ, чаго ў нас няма і не хутка будзе, дзяржава расплачвалася з намі ордэнамі, медалямі і ганаровымі граматамі. Гэтак танней. На шчасце, яна не навучылася ў духу фантазіі Оруэла штампаваць дзяцей на канвееры. А то абавязкова аб'явіла б пол «буржуазнымі прымхамі», шкоднымі для савецкага чалавека. І апранула ўсіх у аднолькавыя камбінезоны нямаркага колеру. Яна старалася і мужчын, і жанчын ператварыць у псіхалагічна бясполых істот, якія марацць не аб каханні, а аб перамозе ў сацспаборніцтве.**

**Адразу ж пасля рэвалюцыі новая ўлада замахнулася на сям'ю і каханне. У каханні ў максімальнай ступені праяўляецца свабода асобы. Дзяржава хацела максімальна спрасціць і абязлічыць каханне. «Вінцікам» няма патрэбы адчуваць страсці, апетыя Шэкспірам і Петраркам. Яны павінны страсна любіць родную партыю і страсна ненавідзець ворагаў, а адно да другога няхай перажываюць пачуцці прасцейшыя: простае лягчэй кантраляваць.**

Аднак спробы «социализации женщин и девиц» у час грамадзянскай вайны абарочваліся такой жахлівай і жорсткай разбэшчанасцю, што пралетарская дзяржава проста пабаялася ператварыць краіну ў адзін вялізны публічны дом. І адступіла. Высветлілася, што больш бяспечна ўсё-такі трываць сям'ю. Але сям'я — гэта астравок аўтаномнага існавання ў моры таталітарызму. Менавіта ў сям'і чалавек атрымлівае той духоўны зарад, які перадаецца з пакалення ў пакаленне і робіцца асновай культуры і духоўнасці. Менавіта гэтую пераемнасць і стараліся разарваць. Новага чалавека павінна выхоўваць не сям'я, не жанчына, не маці, а дзяржава.

Думаю, што жанчын пагалоўна выгналі працаваць не толькі таму, што трэба было як мага больш таннай рабочай сілы. Трэба было зрабіць падкантрольнай сям'ю, паслабіць сямейныя сувязі, падпарадкаваць выхаванне ідэалогіі, каб сям'я не перашкаджала фарміраванню таталітарнага менталітэту.

Каханне і сям'ю зрабілі падсправаздачнай чыноўнікам. У характарыстыках назаўсёды пасялілася ацэнка «маральнага вобліку». Асабістае жыццё бязлітасна выганялася з «савецкага» грамадства. А ханжаства, як спосаб татальнага кантролю, стала дзяржаўнай палітыкай. Жанчыну пры гэтым пераконвалі: твая прываблівасць — гэта ідэйная і ўдарная праца. Успомнім даваенныя фільмы, дзе бойкая, энергічная гераіня з вялікім запалам перавыконвае нормы і на сходах кулаком па стале грукае. Гэты тып жанчыны стаў дамінуючым. Яго пераймалі. Ударніца, баявая сяброўка, камсамолка. (Касметычныя хітрыкі ёй не патрэбны: просты сарафан, скуранка, гімнасцёрка, у голасе звініць метал...)

Але вельмі хутка высветлілася, што вышэйшыя партыйныя кіраўнікі нічога чалавечага не цураюцца. І яны хочуць не толькі жыць на дачах былых арыстакратаў, а і бачыць вакол сябе прыгожых, добра апранутых жанчын. У пачатку 30-х гадоў многія «партыйкі» былі невыказна здзіўлены, пачуўшы распараджэнне Сталіна апранацца на чарговы крамлёўскі банкет «як жанчыны». Відаць, правадыру народаў абрыдла бачыць вакол сябе салдафонаў у спадніцах, падстрыжаных пад гаршчок.

**Час энтузіязму і вялікіх ілюзій быў і часам двудушша. Жонкі высокапастаўленых работнікаў, артысткі, усе жанчыны, якія так альбо іначай належаць да вярхоў, і тыя, хто лашчыў вока і слых правадыроў, і тыя, хто запаўняў ложы Вялікага тэатра, дэманструючы парадпае аблічча нашай краіны перад іншаземцамі, атрымалі магчымасць быць жанчынамі — насіць парыжскія сукенкі, футры з чарнабуркі і пярсцёнкі з брыльянтамі. А для асноўнай масы жанчын прапагандаваўся ўсё той жа вобраз стаханаўкі, для якой праца — справа доблесці і гонару, і якая ў стане жыць дзе заўгодна: у бараку, у палатцы — нічога, што вада на галаву цячэ, — яна не баіцца цяжкасцей. А калі ў яе быў пакой на 12 метраў і прымус, яе пераконвалі, што гэта мяжа мараў і райскае жыццё.**

Усе працаўнікі мастацтва (яно ж ідэалагічны фронт) вольна або міжволі ў гэтым крывадушшы ўдзельнічалі. І даваенныя кіназоркі, прыходзячы на здымачную пляцоўку, здымалі шаўковыя сукенкі, футра і ап-

СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ



# ПРАМЕНЬ СЯРОД НОЧЫ

Уявіце сабе цёмную, глухую ноч, дзе нічога не відаць, як кажуць, хоць вока выкалі... І раптам сярод гэтай цемры і глухаты заіскрыўся яркім полымем прамень! Ён асвяціў сабой мёртвую прастору, якая адразу зрабілася зусім інакшай — светлай, жывой і прывабнай.

Нешта падобнае адбывалася і ў нашай літаратуры. Яе аглушалі нябачнай дубінай так званай «марксісцка-ленінскай крытыкі» розныя бэнды, браніштэйны, кучары, барысенкі і іншыя сталінскія падзёншчыкі. Яны выбівалі з яе ўсё жывое, чалавечае. Яны зрабілі «нацдэмамі» Купалу і Коласа, Гартнага і Гарэцкага. Адначасова з іх блаславення хадзілі ў «класіках» клімковічы і модэлі.

І раптам на фоне гэтай беспрасветнай цемры на літаратурным небасхіле замільгала новае імя, зусім не падобнае на тыя, да якіх так прывучаны быў непатрабавальны чытач. Такім праменем сярод непрабуднай ночы стаў малады ў той час крытык Рыгор Бярозкін. Але пільныя вочы «стражей революции» не маглі не заўважыць гэтага і вырашылі яго «своечасова абясшкодзіць». Як задумалі, так і зрабілі. У 1941 годзе, незадоўга да вайны, Р. Бярозкін трапіў у кіпцюры сталінскіх апрычнікаў. Там ён сустрэў і пачатак вайны. Праўда, усё ж змог стаць байцом Чырвонай Арміі, дайсці да Берліна.

На жаль, у даведніку «Пісьменнікі Беларусі», выдадзеным у 1981 годзе, напісана пра яго ўсё чыста і гладка: «У 1938 г. працаваў загадчыкам аддзела крытыкі ў рэдакцыі часопіса «Полымя рэвалюцыі», затым — літкансультантам у кабінеце маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў БССР (1938—1939), загадчыкам аддзела крытыкі газеты «Літаратура і мастацтва» (1939—1941). У час Вялікай Айчыннай вайны ваяваў пад Сталінградам і на іншых франтах. Быў паранены. У пасляваенныя гады працаваў на новабудоўлях Казахстана і Сібіры... Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, Чырвонай зоркі і медалямі».

Працаваў, ваяваў, за што атрымаў урадавыя ўзнагароды. Потым зноў працаваў. Толькі чамусьці пасля вайны — на новабудоўлях Казахстана і Сібіры. Аднак не сказана, у якасці каго ён там працаваў. Канечне, уважлівы чытач здагадаецца, але большасці і ў галаву не прыйдзе, што вядомы літаратурны крытык быў там у якасці рабочага быдла з мянушкай «вораг народа».

...Асабіста я пазнаёміўся з Р. Бярозкіным тады, калі крытык ужо знаходзіўся ў зеніце славы — недзе ў канцы 50-х гадоў. Ён працаваў у часопісе «Советская Отчизна». Я прынёс туды свой верш на рускай мове «Славное море, священный Байкал». Натрапіў якраз на Р. Бярозкіна. Ён прачытаў верш, паглядзеў на подпіс пад ім, потым—на мяне, усміхнуўся і спытаў:

— Даўно перайшоў на рускую мову?

— Не разумею вашага пытання?

— Ты ж пісаў на беларускай мове. Навошта ж зноў усё спачатку?

— Адкуль вам вядома?

— Я добра ведаў даваеннага Паўлюка Буравея-Пруднікава, аўтара зборніка вершаў «Песні грузчыкаў». Ведаў і Алеся Пруднікава. Дарэчы, дзе ён цяпер?

— Алесь загінуў на вайне.

— А цябе які лёс напаткаў? —зноў спытаў Р. Бярозкін.

— Асвойваў тыя мясціны, пра якія пішу ў гэтым вершы. Адным словам, былы «вораг народа»...

— Я таксама,—сказаў ён,—і нават двойчы. А цяпер давай пазнаёмімся — Рыгор Бярозкін.

— Вас і пра вас я многа чытаў, асабліва ў апошні час.

— А я ведаў цябе яшчэ ў даваенны час, праўда, завочна. Калі ты ўжо шырока друкаваўся, я толькі яшчэ пачынаў, быў школьнікам. Так што не называй мяне на «вы».

— Ну што ж, будзем на «ты», не супраць, — пагадзіўся я.— Дык што ты скажаш наконт гэтага верша? — спытаў у свайго строгага суддзі.

— Я хлусіць не ўмею—верш слабы. Канечне, ёсць у ім добрыя вобразы, але ў цэлым— ён сыры. Я ўпэўнены, што каб ты напісаў яго на роднай мове, ён быў бы куды лепшым. Як кажуць, справа гаспадарская, але я параіў бы табе вяртацца да роднай мовы. Іменна там твая стыхія, а гэта ўсё штучна набытае. Прынось мне што-небудзь напісанае па-беларуску, будзем глядзець і раіцца.

На гэтым і закончылі гаворку. Прызнаюся, што парада Р. Бярозкіна пайшла на карысць. То было апошняе маё практыкаванне па-руску.

Праз нейкі час я апублікаваў свой першы пасля доўгага перапынку верш у часопісе «Полымя», які, як я пасля даведаўся, заўважыў Рыгор Саламонавіч і станоўча адазваўся ў



ранілі кірзавыя боты, іграючы перадавых свінарак. Жанчыны верылі ў гэтую хлусню і стараліся адпавядаць прапагандысцкаму ідэалу. Але, вядома ж, ім хацелася і падабацца. І яны перашывалі па тры разы адну і тую ж сукенку, начышчалі тапкі мелам і не абураліся, спадзеючыся на светлую будучыню.

Але ілюзіі не могуць цягнуцца вечна. Для многіх яны закончыліся ГУЛАГам, для некага проста стамлёнасцю і для ўсіх — вайной. У час вайны жанчына стала асноўнай «цяглавай сілай» у полі, на абаронных заводах. Жанчыны выцягнулі эканоміку ваюючай краіны літаральна на сваіх плячах. Але калі мужчыны — удзельнікі вайны — маюць ільготы, то жанчыны, якіяаралі на сабе і працавалі па 14 гадзін за станкамі, не маюць нічога. Часцей за ўсё адзінокія, дажываюць яны свой век на мізэрную пенсію. І дзяржава не адчувае сябе перад імі ў даўгу. Адпрацаваныя «шасцяронкі» нікому не патрэбны...

Вайна закончылася. Справіліся з разрухай. І зноў, ужо другое пакаленне жанчын, узяліся адвучаць ад жаноцкасці. Як і раней, асабліва старалася самае масавае мастацтва — кіно. Паглядзіце любы фільм 50-х гадоў: калі актрыса ў просценькай сукенцы або строгім касцюме, калі яна гладка прычэсана — гэта станоўчая гераіня, а калі на ёйманісты і прычоска з цырульні — хто гэта? —разлучніца, распусніца і гультайка! Прастата аблічча і манер павінна была ў свядомасці народа асацыіравацца з маральнай чысцінёй. Жанчын пераконвалі, што сорамна лёгка жыць і лёгка працаваць, што не патрэбны перманент, калі душа харошая.

Толькі адна іпастась жаноцкасці — мацярынства — віталася як патрэбная дзяржаве функцыя. «Уславім жанчынумаці!» — з году ў год абвяшчалі ідэалагічныя запявалы. Аднак далей услаўлення справа не пайшла. Дзяржава знаходзіла сродкі на ракеты, мемарыялы, на БАМ, але не зрабіла ласку паклапаціцца, каб у краіне паагалоўна працуючых жанчын для кожнага дзіцяці было месца ў дзіцячым садку. Не кажучы пра тое, што няма дзіцячага харчавання, што памер дапамогі на дзіця варты анекдота, а ў раддоме з жанчынай размаўляюць, як з зэкам-рэцыдывістам. Жанчына сёння жыве з пастаяннымі нервовымі і фізічнымі перагрузкамі. Яна стаіць у чэргах, корміць сям'ю ва ўмовах хранічнага дэфіцыту. Яна нараджае не вельмі здаровых дзяцей, якія пастаянна хварэюць. Гадоў у сорак яна таксама мае адну-дзве хранічныя хваробы. У выніку робіцца нервовай, злоснай, раздражнёнай. Даводзіцца прызнаць — яна агрубела. Яна — гераіня вядомай частушкі: «Я й кабыла, я і бык, я і баба, і мужык».

**Калі жанчына губляе жаноцкасць, ад гэтага кепска ўсім і ў першую чаргу — мужчынам, якія адчулі дыскамфорт побач з нежаноцкай жанчынай і пачалі пісаць у рэдакцыю адчайныя пісьмы. «Дзе Таццяны Ларыны? Дзе Наташы Растовы?». Ну як жа дзе? Паглядзіце наўкола, дарагія! Вунь Наташа Растова ў тралейбус упіхваецца з дзвюма сумкамі. А П'ер Бязухаў яе локцем адштурхоўвае, таму што на футбол спяшаецца.**

Жанчына, якая працуе, — гэта праблема не толькі для нашай краіны. Гэта праблема XX стагоддзя. Але ў цывілізаваных краінах і грамадства, і дзяржава лічаць гэтую праблему сваёй і стараюцца вырашыць. Побыт сям'і максімальна аблегчаны пры дапамозе пральняў, кафэ, багаццем паўфабрыкатаў і кухонных машын. У іх, у «свеце чыстагана», жанчына, часцей за ўсё, мае магчымасць выбару — працаваць або не. Там яна ў стане пракарміць і сябе, і дзіця, працуючы прадаўшчыцай ці медсястрой. У нас для гэтага вымушана махаць мулярным пэндзлем, кувалдай або красці.

**Удзел жанчын у грамадскім жыцці і ў грамадскай вытворчасці разбурыў патрыярхальную сям'ю. Але ў цывілізаваным свеце фарміруецца новы тып сям'і, заснаваны не на дамінаванні, а на партнёрстве. І жанчыне і мужчыне памагаюць адаптавацца ў новых умовах. Гэтым заняты філосафы, псіхолагі, сацыёлагі, педагогі. І «буржуазная» прапаганда не дрэмле. Жанчыну пераконваюць — працуй хоць у Пентагоне, але будзь чароўнай. Па амерыканскім тэлебачанні паказваюць Арнольда Шварцнегера, які вязе сваё дзіця ў калясцы. І Арнольд расказвае тэлегледачам, як ён мяняе падгузнікі. Думаю, такія перадачы вельмі памагаюць амерыканцам пазбавіцца састарэлых стэрэатыпаў. У нас стэрэатыпы досыць моцныя. Баюся, што наш Іван Іванавіч у такой сітуацыі з сораму згарыць, хоць і не Шварцнегер.**

У нас жа сям'я прадастаўлена самой сабе. Калі ў двух людзей хапае культуры і інтуіцыі, то яны, відаць, змогуць, жывучы ў хворым грамадстве, пабудаваць здаровую сям'ю. А інакш гэта будзе тыповая савецкая сям'я — крызісная ячэйка крызіснага грамадства, якая нясе ў сабе ўсе яго супярэчнасці. Гэта сям'я не мае культуры. Пасля глабальнай праполкі 17-га года культура ўзышла астраўкамі, сяк-так і сям-там. Традыцыі засталіся, але яны дэфармаваны ненармальнай пагалоўнай, вымушанай жаночай занятасцю. Гэта дэфармаваная патрыярхальная сям'я, дзе абавязкі размеркаваны па-старому: ёй жаночая работа — на некалькі гадзін, яму мужчынская — за 30 хвілін. Але адносіны пры гэтым далёкія ад патрыярхальных. І ён і яна не забываюць аб раўнапраўі. А гэта значыць, што ён не асабліва саромеецца атрымліваць прыкладна столькі ж, колькі жонка, а яна разумее, што цягне два вазы адразу.

У нашых цяжкіх умовах жанчына фізічна не ў стане адначасова быць добрай жонкай, гаспадыняй, маці і пасоўвацца па службе. Жанчыны адчуваюць гэта як дыскрымінацыю, што ўзмацняе іх жаданне дамінаваць у сям'і. Вытворчыя адносіны праецыруюцца ў сям'ю са зваротным знакам. Кіруючыя намі алхімікі 70-ых гадоў спрабавалі ператварыць жаночую псіхалогію ў вытворчую. Тое-сёе ім у гэтых адносінах удалося. Часта жанчына паводзіць сябе ў сям'і ў стылі нашых горшых дырэктараў і ўчастковых міліцыянтаў. У такой сям'і і мужчыне і жанчыне дрэнна. І, на жаль, сям'я не стане горшай, пакуль да лепшага не зменіцца грамадства.

Вядома, праблемы жанчын, дзяцей, сям'і вельмі цесна змыкаюцца з праблемамі эканомікі, культуры, адукацыі і вельмі моцна ад іх залежаць. Баюся, што цяпер, у час эканамічнага крызісу, якому не відаць канца, гэтыя праблемы будуць паглыбляцца. Жанчына, асабліва калі ў яе ёсць дзеці, найбольш адчувальная пры пераходзе да рынычнай эканомікі. Яна ў першую чаргу стане ахвярай дарагавізны і беспрацоўя. Думаю, што грамадству не варта чакаць, пакуль час цяжкіх выпрабаванняў заспее неспадзеўкі, не варта спадзявацца і на бязмежнае цярпенне нашага народа: яно вычарпалася за 70 гадоў. Трэба падумаць пра абарону слабых загадзя.

**Таццяна ПАЛЯКОВА.**

---

сваім лімаўскім артыкуле «Паўгода палымянскай паэзіі», што, зразумела, не магло не абрадаваць мяне. Акрылены такім цёплым водгукам, я паслаў Р. Бярозкіну свой новы верш, прысвечаны Алесю Пруднікаву, з надзеяй, што ён адразу ж «упарадкуе» яго ў які-небудзь часопіс ці хоць у газету. Чакаў я чакаў з'яўлення яго ў друку, але так і не дачакаўся. У час чарговай нашай сустрэчы з ім ён паведаміў мне, што верш мой ён перадаў у «ЛіМ» са сваёй рэкамендацыяй, але там чамусьці яго «затармазілі».

— Але ты не хвалюйся, калі-небудзь надрукуеш, верш добры, заслугоўвае ўвагі,—суцешыў.

Сапраўды, я апублікаваў гэты твор, але толькі тады, калі Р. Бярозкін пачаў сам працаваць у «ЛіМе», загадваў аддзелам літаратуры.

Тады я неаднойчы заходзіў да яго ў рэдакцыю, каб паказаць свае новыя вершы, а часам і проста так — пагутарыць. Гаварыць з ім было цікава, як з чалавекам эрудзіраваным, начытаным, асабліва што датычыцца мастацкай літаратуры.

Якраз у гэты час выйшла мая новая і першая пасля шматгадовага перапынку кніга вершаў «Час майго нараджэння», якая з боку Р. Бярозкіна атрымала высокую ацэнку, што не магло не абрадаваць. Думка яго для мяне, як і шмат яшчэ для каго, з'яўлялася законам. Яго выказванні-меркаванні многія з нас не падвяргалі сумненню. Часта можна было пачуць: «Так мяркуе Бярозкін», «Так сказаў Бярозкін», «Так думае Бярозкін».

Акрамя таго, што Рыгор Саламонавіч сам даў станоўчую ацэнку кніжцы, дык ён яшчэ ў маёй прысутнасці парэкамендаваў аднаму ўкраінскаму крытыку напісаць пра яе рэцэнзію ў якое-небудзь літаратурна-мастацкае выданне Украіны.

Я ўжо жыў і працаваў у Мінску. Так што была магчымасць часцей сустракацца і дзяліцца думкамі з гэтым цікавым чалавекам. Ён быў выключна здольным, выдатным крытыкам і літаратуразнаўцам, бескампрамісным суддзёй творчых набыткаў пісьменнікаў, асабліва паэтаў. Але ў той жа час ён з'яўляўся і чалавекам нялёгкага характару. Ніколі не ішоў на кампраміс з уласным сумленнем,— не хадзіў на лапках перад начальствам, не лізаў пяткі яму. Усё гэта вымушала яго мяняць месца работы. Ці не па гэтай прычыне ён у свой час пакінуў рэдакцыі «Нёмана», «ЛіМа» і бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», а пасля і наогул колькі год нідзе стала не працаваў. На добраахвотную прыніжанасць, бездапаможнасць і безабароннасць чалавека заўсёды глядзеў пагардліва. Свабода і незалежнасць асобы— вось што з'яўлялася ідэалам для Р. Бярозкіна.

Неаднойчы даводзілася разам з ім сустракацца з чытачамі. Занятак гэты, аднак, быў яму не па душы.

— Не люблю гастралёрства. Добра пагаварыць з чытачамі раз-два за год, а не кожны дзень па 2—4 разы. Каб не абставіны, ніколі не рабіў бы гэтага.

Аднак жа выступаў ён перад сваімі чытачамі-слухачамі проста выдатна, бліскуча. Для кожнай аўдыторыі ў яго была адпаведная праграма і падыход. Асабліва любіў выступаць перад дзецьмі і моладдзю. І вельмі не любіў «пустых» аўдыторый. У такіх выпадках ён рабіўся сумным. Прызнаваўся: «Для іх стараешся, распінаешся, а ім напляваць на цябе».

Апошні год свайго жыцця Рыгор Саламонавіч быў надзвычай сумны, нейкі раздражальны, крыўдлівы. Ён зусім не паходзіў на таго Бярозкіна, якога я ведаў у 50—60-ыя гады. Пра такіх у народзе кажуць: «Зламаўся». А прычынай гэтаму стала атмасфера падазронасці і зняваги, якая штучна стваралася вакол яго асобы.

Дазволю прыгадаць толькі адзін выпадак, які мог бы вывесці з раўнавагі любога, а не толькі Р. Бярозкіна.

Было гэта ў лютым 1978 года, у дзень пахавання А. Куляшова. Рыгор Саламонавіч усведамляў, што развітваецца з найлепшым сябрам усяго свайго творчага жыцця. Ён падрыхтаваў слова, якое меркаваў сказаць на паніхідзе ці на жалобным абедзе. Але ў час пахавання выступіць Р. Бярозкіну не дазволілі, а на жалобны абед яго проста не пусцілі (кажуць, па загаду былога сакратара ЦК КПБ Кузьміна).

**Павел ПРУДНІКАЎ.**

---

# ДАЛЁКА АД РОДНАЙ ЗЯМЛІ...



**З Нью-Йорка (ЗША) прыйшла сумная вестка. Памёр Міхаіл Міхайлавіч Міцкевіч (Антось Галіна) — празаік, публіцыст, малодшы брат Якуба Коласа.**

**М. М. Міцкевіч нарадзіўся ў 1897 годзе ў леснічоўцы Альбуць (паблізу Стоўбцаў). У 1914—1918 гг. вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў са званнем настаўніка пачатковых вучылішчаў. Пры паляках жыў на хутары Смольня і займаўся сельскай гаспадаркай. У час нямецкай акупацыі працаваў у сістэме адукацыі. У 1944 годзе, баючыся рэпрэсій, выехаў на Захад — спачатку ў Чэхаславакію, дзе працаваў цесляром, а потым у Заходнюю Германію. Жыў у лагеры для перамешчаных асоб, працаваў інспектарам беларускіх школ, якія дзейнічалі ў лагерах. З 1950-х гадоў жыў у Нью-Йорку.**

**Літаратурную дзейнасць А. Галіна (Міцкевіч М. М.) пачаў у 1918 годзе. Друкаваўся ў газетах «Вольная Беларусь», «Беларусь». Тэматыка яго апавяданняў і фельетонаў — жыццё сялян, семінарыстаў; фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. М. Гарэцкі пісаў пра А. Галіну, што гэта «вельмі спадзейны малады белетрыст і паважаны публіцыст». У ЗША працягваў публіцыстычную дзейнасць на ніве адраджэння Беларусі.**

**Горка ўсведамляць, што свой вечны спакой ён знайшоў далёка ад роднай зямлі...**

**Сям'я Якуба Коласа.**
**Літаратурны музей Якуба Коласа.**
**Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны.**

---

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# У КАВАЛЬСТВЕ— СВАЯ ВАБНАСЦЬ...

**Багатая на таленты зямля беларуская. Здаўна раскрываюць нашы людзі сваё майстэрства ў самых розных галінах народнага мастацтва, у тым ліку і ў кавальстве. Скажаце: якое дачыненне мае кавальства да мастацтва? Ды самае непасрэднае. Гэта сцвярджае (і слушна) у кнізе «Беларускае народнае мастацкае кавальства», выпушчанай выдавецтвам «Полымя», яе аўтар Яўген Сахута і аргументуе сваю думку так: «Вядома, з першага погляду кавальскія вырабы не ўражваюць такімі ярка выяўленымі мастацкімі якасцямі, як тканыя, вышываныя, разьбяныя. Але пільнае вока сярод мноства каваных рэчаў таксама знойдзе нямала цікавага і арыгінальнага».**

**Сапраўды, прыгадайце даўнейшыя разнастайныя замкі, завесы, жалезныя агароджы! Як глядзяцца яны, як радуюць вока завершанасцю форм, дакладнай прадуманасцю малюнка! А вядомая жырандоля з Крошына, выкананая знакамітым беларускім паэтам-самавукам Паўлюком Багрымам, які да ўсяго быў і таленавітым кавалём?**

**Пра ўсё гэта і згадваецца ў кнізе. Але галоўная яе вартасць у тым, што ўпершыню ў рэспубліцы пад адной вокладкай сабраны ці не ўсе звесткі, якія тычацца развіцця кавальства на Беларусі.**

**Тым больш, што майстры не пераводзіліся. Пра іх і расказвае Я. Сахута з любоўю і захапленнем, з павагаю да іх нялёгкай працы.**

**І ўвесь гэты аповяд у кнізе шчодра праілюстраваны.**

**А. М.**

---

**Калектыў рэдакцыі газеты «Наша слова» і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выказвае шчырае спачуванне рэдактару Ялугіну Эрнесту Васільевічу ў сувязі з вялікім горам, што напаткала яго, — смерцю ЖОНКІ.**

